Год заснаваньня 1989



# Шлях

№ 2-3 (19-20)
чэрвень-ліпень
1997 г.
кошт свабодны

Незалежны беларускі часапіс Берасьцейшчыны

*У красавіку гэтага году ня стала аднаго з вядучых беларускіх драматургаў, лаўрэата прэміі імя К.Крапівы, нашага земляка Міколы Арахоўскага (нарадзіўся ў 1950 г. у в.Сялец Бярозаўскага р-ну). Урэшце, не "аднаго з..." Старшыня Саюза тэатральных дзеячоў Аляксей Дудараў, які прыязджаў на пахаваньне з бел-чырвона-белым вянком, мо ўжо соты раз назваў яго без аніякіх агаворак — вядучым. Ён вядучы філасофскаю глыбінёю сваіх твораў, наватарствам, арганічным паяднаньнем вечнага, агульналюдзкага з надзённа-балючым — лёсам свайго народу...*

*Мікола быў ня толькі драматургам, а і мастаком-прафесіяналам, празаікам, публіцыстам. Цяжкаю хваробаю прыкаваны да ложка, ён да апошніх сваіх дзён тварыў, сьцішваючы ўласны боль болем краіны, якую любіў больш за ўсё, якую хацеў бачыць вольнай, незалежнай, дэмакратычнай, беларускамоўнай. Пра ягоныя погляды яскрава сьведчыць сатырычны артыкул "Новыя старыя ідэі", які ў свой час быў дасланы ім у рэдакцыю "Шляху". Лічым сваім абавязкам пазнаёміць з ім нашага чытача, балазе артыкул, напісаны яшчэ ў 1996 годзе, ні трохі ня страціў надзённасьці.*




## Незалежнасьць — гэта...

Апошнім часам розныя беды, як Божае пакараньне, нахлынулі на Беларусь. Падчас такіх бедаў яскрава праяўляецца чалавечая асоба, хто чаго варты. Праявіў сябе і прэзідэнт... Асабліва падчас сьвяткаваньня дня рэспублікі 3 ліпеня, які некаторыя газеты чамусьці называюць днём незалежнасьці. Але нават калі гэта і сапраўды Дзень незалежнасьці, то хочацца спытаць у прэзідэнта і ягонага атачэньня:

Няўжо незалежнасьць — гэта свабода ад сваіх перадвыбарных абяцаньняў? Няўжо гэта права бессаромна падманваць уласны народ? Падобна, што для прэзідэнта гэта ўжо стала нормай...

Ці ж незалежнасьць — гэта свабода ад уласнага сумленьня? Узгадаем, як Лукашэнка клаў сваю руку на Канстытуцыю і кляўся не парушаць законы і Канстытуцыю. Незабылася і абяцаньне Рыгоравіча ў выпадку няўдачы ажыцьцявіць свае перадвыбарныя абяцанкі палепшыць жыцьцё народу адразу падаць у адстаўку. Паляпшэньня ў жыцьці нешта нябачна, хіба ў справаздачах вертыкалі. Народ Беларусі зачакаўся, Аляксандр Рыгоравіч! Чакаем на пробліск вашага сумленьня. Пара б у адстаўку...

Незалежнасьць — гэта абыякавасьць да праблемаў свайго народу? Надта ўжо не хацелася Рыгоравічу забіваць сабе галаву нейкімі там пацярпелымі ад урагану, калі наперадзе мроіцца запаветны крамлёўскі трон. Прасьцей грэцца "на югах" ды пры гэтым расказваць байкі расейскаму абывалю.

Незалежнасьць — гэта свабода ад усяго нацыянальнага, ад роднай гісторыі і мовы? У якой краіне сьвету на ўрачыстым канцэрце з нагоды сьвята, якое чамусьці называецца нацыянальным, ледзь не з першага твора гучаць чужыя сьпевы пра любоў да краіны-суседкі: "Россия, любовь моя..." А вось у нас гэта можна. У прэзідэнта гэта называецца незалежнасьць...

Дзе яшчэ могуць быць такія пышныя і пампезныя сьвяты ў дні, калі ў краіне здарылася яшчэ адна трагедыя — аўтакатастрофа, у выніку якой загінулі чарнобыльскія дзеці. І гэта ўсё таксама называецца незалежнасьцю... Ад людзкога гора?

У нас, мабыць, абсалютна розныя паняцьці пра незалежнасьць.

Мікола Арахоўскі

# Новыя старыя ідэі



Як гэта звычайна бывае напрыканцы тысячагоддзя, у паветры запахла новымі ідэямі, якія павінны ратаваць сьвет. Іх пакуль амаль няўлоўны павеў адчуў прэзідэнт Беларусі і нарадзіў тэрмін ЕДИНЕНИЕ. Слоўца, здавалася б, пустое, нібы выпіты келіх, кінутае дзеля понту, але той, хто гэтак думае пра нашага прэзідэнта, моцна памыляецца альбо проста зайздросьціць яму — чалавеку, які здолеў адным словам вызначыць працэс развіцьця чалавецтва на працягу наступнага тысячагоддзя.

Як вядома, усё геніяльнае проста. Геній заўсёды глядзіць у корань, і таму яго ідэі ніколі не пярэчаць асновам жыцьця, хоць і здаюцца часам парадаксальнымі. Единение — значыць імкненьне да большага. Усё жывое ледзь не на генетычным узроўні ведае, што большае лепш, чым меншае. З двух кавалкаў каўбасы сабака выбера большы. Гарэм лепш, чым адна жонка. Кажуць, нават верабей, калі падкінуць яму страусінае яйка, пакіне сваё і перасядзе на страусінае. Прэзідэнт дапамог нам усьвядоміць, у чым наш ратунак, і мы павінны дапамагчы яму разьвіваць працэс единения.

Безумоўна, наступным партнёрам на перамовах пра единение з Расеяй і Беларусьсю павінен стаць, як гэта ні парадаксальна на першы погляд, Кітай. Папершае, ён спакусьліва вялікі, па-другое, Кітай — бадай, адзіная на сьвеце дзяр-

*Працяг на стар.2*

# Расейцы зьелі Беларусь

Пачатак лета. Берасьце. У горадзе банкетуюць расейска-беларускія інтэгратары. Як нам потым сказалі, гэта былі "сьвяточныя і радасныя" дні, а мы, аказваецца, з надзеяй і энтузіязмам чакалі гэтай "гістарычнай падзеі". Пра гэта, трэба разумець, сьведчылі дзе-нідзе разьвешаныя па горадзе прывітаньні вертыкальшчыкаў: "Брестчане приветствуют парламентариев России и Беларуси". У адзін з гэтых "шчасьлівых" міжпарламенцкіх дзянькоў камуна-славянскага яднаньня здарылася так, што мне з сябрамі давялося трапіць ў гарвыканкамаўскую сталоўку, дзе для нас загадзя быў замоўлены абед.

Як выявілася, тамсама ў гэты дзень харчаваліся і парламентарыі-інтэгратары. Не пасьпелі мы сесьці за сталы, як нас адразу агарошылі: "Подождите, пожалуйста, 20 минут: ваш обед съели русские". Нічога ня зробіш. Як сапраўдныя беларусы, мы зьміРыліся і вымушаныя былі панура чакаць сваёй чаргі. Пакуль чакалі — вырашылі заглянуць у меню, каб даведацца, чым жа падсілкоўваліся барацьбіты за славянскую еднасьць. Нашу ўвагу адразу прыцягнула страва пад назваю *"котлеты "Белорусь"*. Спачатку нас гэта абразіла і абурыла: як гэта можна — даць назву краіны катлетам! Пасьля адзін з нас выдаў версію: "А можа, яны формаю нагадваюць Беларусь?" Нехта слушна заўважыў: "Толькі б не зьместам!.." Мы ад душы пасьмяяліся і ўрэшце зьвярнулі ўвагу на галоўнае — на памылку ў слове: яно пісалася менавіта *"Белорусь"*. І тут у нас нарадзілася ідэя. Мы па-змоўніцку пераглянуліся: "Хто-небудзь ведае, што такое "Белорусь"? — Не. Тады запытаем пра гэтае *"Белорусь"* у афіцыянткі." Калі яна падыйшла да нас, мы, наўмысна падкрэсьлена "окая", спыталі: "Скажыце, калі ласка, а што такое "Белорусь"?" Адказ маладой афіцыянткі прагучаў імгненна і быў да сьмешнага катэгарычны і недарэчны, бо падвоху яна зусім не адчула: "Беларусь" — гэта катлета! Але ў вас не "Беларусь". У вас "Юбілейная". Ашаломленыя адказам, мы толькі спыталіся: "Чаму?" Афіцыянтка паціснула плячыма і з усёй сваёй прастатой выдала: "Таму што "Беларусь" зьелі!" "Зноў гэтыя расейцы",— уздыхнулі мы і пачалі задуменна жаваць свае "Юбілейныя", разважаючы над гэтай дзіўнай гульнёй словаў.




З усёй гэтай сьмешнай і недарэчнай гісторыі ў гарвыканкамаўскай сталоўцы, дзе харчуюцца нашыя "слугі народа", напрошваецца некалькі пытаньняў: ці то вертыкаль настолькі неадукаваная, што ня ў стане заўважыць памылку і ўказаць сваім падначаленым, як трэба правільна пісаць назву сваёй роднай краіны (калі, вядома, яны не называюць нашу Беларусь "Белой Россией"), ці то ім проста ўсё "да фені", у тым ліку і закон, які забараняе ўжываць назву краіны дзе каму захочацца (як вядома, нават камуністы вымушаныя былі ўдакладніць свой назоў: ПКБ — Партыя камуністаў беларуская). Няўжо і перад гасьцямі ім ня сорамна? Апошнія, пэўна, чытаюць такія "ляпы" ў меню ды сьмяюцца з беларусаў: усё ў іх не па-людзку...

**Вераніка Шульган-Цітова**

## Выбраныя тэксты

*"Тыран павінен зьнішчыць усіх выдатных людзей у краіне, таму што яны могуць стаць небясьпечнымі. Ён павінен закрыць усе клубы і падобныя ўстановы і асьцерагацца ўсяго, што здольна абудзіць мужнасьць сярод яго падданых. Ён ня можа дапусьціць існаваньне літаратурных або якіх-небудзь іншых аб'яднаньняў, у якіх абмяркоўваюцца складаныя пытаньні. Тыран павінен сачыць за тым, каб яго падданыя як мага менш сустракаліся адзін з адным, ён павінен вынішчаць дружбу паміж імі і мець скрозь шпіёнаў, якія павінны ня толькі падслухоўваць, пра што падданыя гавораць, але й сачыць, каб тыя не выказвалі сваіх поглядаў і наогул іх ня мелі".*

*Арыстоцель, 384-322 гг. да н.э.*

Прачытаўшы гэтыя радкі вялікага філосафа старажытнай Грэцыі, ты, чытач, пэўна, ужо ніколі не падумаеш, што наш прэзідэнт, мабыць, у інстытутах не вучыўся, а дыплом гісторыка ў яго хіба куплены. Не, брахня ўсё гэта! *Аляксандр Грыгор'евіч гісторыю знаіт палучшэ вашэва. І Арыстоцеля тожа!*

# Новыя старыя ідэі

*Працяг, пачатак на стар.1*

жава, якая ахвотна, без аніякага прымусу і крууцельства пойдзе на поўнае *единение* з Расеяй. Няма ніякага сумневу, што на адпаведным рэферэндуме кітайцы горача падтрымаюць ініцыятыву двух славянскіх прэзідэнтаў, а дабраахвотнасьць, як вядома, галоўная ўмова единения.

Магчыма, у расейскага прэзідэнта ўзьнікнуць некаторыя сумненьні наконт мэтазгоднасьці единения з Кітаем, асабліва, калі расейскія нацыянал-радыкалы, што вельмі верагодна, не ўпадабаюць вынікаў кітайскага рэферэндуму і пачнуць галасіць пра магчымую пагібель расейскай мовы, культуры і самога расейскага этнасу. Тады беларускі прэзідэнт павінен нагадаць расейскаму, што за апошнія паўтара гады ў Беларусі назапашаны ўнікальны вопыт барацьбы з дамарослымі нацыянал-радыкаламі і, калі спатрэбіцца, мы ахвотна падзелімся ім са старэйшым братам. Няхай ня думае, што ў беларусаў нічога няма. Што да нармальнай, не радыкальнай часткі расейскага электарату, то дастаткова некалькі разоў на дні па радыё і тэлебачаньні даносіць да яе геніяльнае выказваньне нашага прэзідэнта аб мовах, у якім, нібы сонца ў кроплі вады, адлюстраваліся яго велізарны жыцьцёвы вопыт, мудрасьць і культура. Ён вызначыў, што на сьвеце ёсьць толькі дзьве мовы, на якіх можна выказваць штосьці высокае — расейская і ангельская. Паколькі ў кітайцаў самая звычайная мова, то расейскаму этнасу няма чаго баяцца. Кемлівыя кітайцы пяройдуць на расейскую мову, каб далучыцца да больш высокага і паступова зрусіфікавацца.

Сур'ёзныя складанасьці могуць узьнікнуць пры разьмеркаваньні, каму колькі сядзець на троне новага дзяржаўнага ўтварэньня, якога "сьвет ня бачыў". Існуе вялікая верагоднасьць, што кожны з прэтэндэнтаў захоча "выбіць" для сябе большую "квоту" і будзе мець рацыю: у аднаго працавіты тысячамільённы народ, у другога велізарная тэрыторыя і матэрыяльныя рэсурсы, а ў трэцяга — бліскучая галава. Зрэшты, усе складанасьці нішто ў параўнаньні з радасьцю, якая чакае нас, калі, перафразуючы нашага прэзідэнта, "...кітайскі, расейскі і беларускі народы войдуць у XXI стагоддзе адзінаю і квітнеючаю сям'ёй".

*в.Сялец,*

*26 красавіка 1996 году*

# Беларускі ЛукаНЭП

Сёньня Лукашэнка, як і расейскія бальшавікі ў канцы 1919 — пачатку 1920-х гадоў, стаіць перад цяжкай праблемай унутранага гаспадарчага крызісу. Для будучай лукашэнкаўскай фармацыі — рынкавага сацыялізму — хранічна не хапае сродкаў для "запуску" заводаў, не хапае стартавай пляцоўкі ў выглядзе крыніцаў фінансаваньня. Лукашэнка, як і ўсе сацыял-камуністычныя эканамісты, лічыць, што менавіта буйныя прадпрыемствы зьяўляюцца найбольш эфектыўнымі сярод усіх суб'ектаў гаспадараньня і яны складаюць аснову ўсяе гаспадаркі ды гаспадарчы падмурак самой улады.

Каманда Лукашэнкі, як калісьці каманда Леніна, лічыць, што трэба падтрымліваць выключна вялікія прамысловыя прадпрыемствы. Менавіта яны зьяўляюцца адпраўным пунктам для далейшага тэхнічнага разьвіцьця. Пра гэта сьведчаць няспынныя візіты і "клопаты" Лукашэнкі пра "Гарызонт", трактарны завод і інш. Вельмі цяжка прыпомніць, каб прэзідэнт калі-небудзь удзяляў такую ўвагу, напрыклад, піларамэ ў правінцыйным гарадку або невялічкай сыраварні ці маслабойні, ня кажучы ўжо пра нейкія фермерскія гаспадаркі.

У свой час бальшавікі прынялі досыць радыкальныя і рызыкоўныя меры для выйсьця з крызісу, якія ня маюць тлумачэньня, бадай, у ніводнай з існуючых эканамічных тэорыяў. У надзеі падняць флагманаў пралетарскай улады бальшавікамі на сяле была ажыцьцёўлена так званая "продразвёрстка" на карысьць горада. Забіралася ўсё, акрамя нейкага мінімуму на жыцьцё і на наступную сяўбу. "Наша гаспадарчая палітыка ажыцьцяўлялася выключна ў выглядзе палітыкі Наркампрода, г.зн. рэквізіцыйнай сістэмы харчразьвёрсткі. Пры гэтай сістэме, аднак, індывідуальны вытворца, селянін, пазбаўляўся інтарэсу, стымулу да пашырэньня вытворчасьці",— пісаў у 1921 годзе Бухарын. Бальшавікам спатрэбілася некалькі гадоў, каб зразумець элементарныя правілы эканомікі, што на адных закліках да працоўнага энтузіязму, без сыравіны, без спажывецкіх тавараў далёка не заедзеш.

Лукашэнка на пэўным этапе, насьледуючы бальшавікам ранняга перыяду, таксама праводзіў "продразвёрстку", толькі не на сялянах, а на флагманах прамысловасьці, якія ён жа зьбіраўся ратаваць: адбіраў фінансавыя сродкі ў адных і аддаваў іх іншым, каб потым загубіць і адных, і другіх.

Выйсьце з крызіснай сітуацыі бальшавікамі было прыдумана даволі эфектыўнае. Называлася яно Новая Эканамічная Палітыка (НЭП). Толькі дзякуючы гэтай гаспадарчай палітыцы "чырвонец", адзінойчы за ўсю гісторыю існаваньня камуністычнай Расіі, стаўся канвертаваным. Паводле новага курсу, утвараліся дробныя прыватныя сялянскія гаспадаркі, а ў гарадах у арэнду здаваліся невялікія прамысловыя прадпрыемствы. Абгрунтаваньне гэтаму было наступнае: "Паколькі ў арэнду будуць здавацца галоўным чынам прадпрыемствы, якія бязьдзейнічаюць, дрэнна працуюць і г.д., і паколькі ў выглядзе арэнднай платы пралетарская дзяржава будзе мець дадатковую колькасьць рэальных каштоўнасьцяў, то гэтыя каштоўнасьці ўвойдуць у склад неабходнага фонду буйной сацыялізаванай індустрыі". Новыя ўласьнікі, акрамя платы за арэнду, плацілі рознага роду падаткі, тым самым дзелячыся сваім прыбыткам з "пралетарскім класам". Планавалася, што паступова доля капіталіста ў прыбытку будзе зьмяншацца, аж пакуль ня зьнікне зусім, інакш кажучы, прыбытак пераразьмяркуецца на карысьць пралетарыяў ці, фактычна, на карысьць дзяржавы.

Нават бальшавікі разумелі, што найхутчэй дасягнуць эфектыўнай вытворчасьці могуць толькі дробныя прыватныя сельскія гаспадаркі і прадпрыемствы. На "раскачку" вялікіх дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў патрэбна значна больш часу і сродкаў. Неабходныя грашовыя сродкі нельга ўзяць з паветра ці, як прапануе Пётр Пракаповіч, проста надрукаваць, паколькі такі "благородный" учынак у дачыненьні да эканомікі можа выклікаць як мінімум звычайную інфляцыю, якой, як агню, баіцца Лукашэнка.

Жыцьцёвы шлях НЭПу, пасьля разьвіцьця "мелкобуржуазного сектора экономики", дастатковага для атрыманьня ад яго сродкаў на ажыўленьне больш буйных прадпрыемстваў, меўся завяршыцца праз расфармаваньне ці нацыяналізацыю дробных суб'ектаў капіталістычнага гаспадараньня. Як вядома, фінальную кропку ў лёсе новага курсу пры дапамозе бесьсьмяротнага вобразу "ворага народу" паставіў правадыр савецкага народу Іосіф Сталін.

У Лукашэнкі ж наступным этапам яго ЛукаНЭПу сталася далейшая "продразвёрстка" прыватных прадпрыемстваў рознага памеру. Пачалося зьнішчэньне тых суб'ектаў гаспадараньня, якія рэальна маглі даць грошы для хворай эканомікі Беларусі. Падаткавым прэсам зьнішчаюцца ня толькі беларускія, але і замежныя прадпрыемствы. Тым самым адпужваюцца ўсе патэнцыйныя інвестары ў беларускую эканоміку. А гэта значыць, Лукашэнка ўжо ня зможа некалі сказаць, як у свой час Бухарын, што "... замежны капітал, нягледзячы на яго волю і жаданьне, адыграў у нашай агульнай гаспадарцы ролю "сьпеца", які дапамог выцягнуць з балота калымагу савецкай (чытай: беларускай — *Я.Ч.*) гаспадаркі".

Па сутнасьці, лукашэнкаўскі НЭП складаецца толькі з пачатковага і заключнага этапаў бальшавіцкага НЭПу, а менавіта з "продразвёрстки" і зьнішчэньня "мелкобуржуазной" часткі эканомікі. З "продразвёрсткай" сёньня ўсё зразумела: забіралі ў тых, у каго было больш за іншых. Прычым рабілася ўсё гэта бяз сэнсу, таму што забіралі ў сваіх і аддавалі сваім толькі дзеля таго, каб усё гэта заставалася пад поўным дзяржаўным кантролем. Нешта накшталт трышкінага кафтану. Але зусім нічога не зразумела з другім этапам: навошта зьнішчаць тое, што дае грошы? Лукашэнка пайшоў тут яшчэ далей за сваіх папярэднікаў-бальшавікоў: замест таго, каб аддаваць нерэнтабельныя прадпрыемствы прыватным прадпрымальнікам, ён пачаў утвараць (ізноў такі гігантаў! Якая цяга да ўсяго вялікага!) дзяржаўныя гандлёвыя прадпрыемствы, кшталту "ТОРГЭКСПО", прызначаныя толькі для гандлёва-закупачнай дзейнасьці. Менавіта на гэтыя сумніўныя фірмы і на гэтую дзейнасьць Лукашэнкам і яго камандай ўскладаюцца вялікія надзеі ў здабываньні грошай для лячэньня хворай эканомікі. Разьлік на тое, што ў гэтым няма ніякай рызыкі: усё пад кантролем дзяржавы, уся маёмасьць дзяржаўная і ніякай там "мелкой буржуазии"!

Аднак паколькі ў Беларусі адна асоба кіруе ўсім, то ў хуткім часе выявіцца, што для яе стала зразумела: навошта аддаваць эканоміцы гэтыя мільёны даляраў прыбытку, калі іх можна забраць сабе. Атрыманыя крохі ня зробяць ёй лепей. Тым больш, што сёньня на рэанімацыю эканомікі Беларусі патрэбна ня меней за 7-8 млрд. даляраў.

**Янка Чурыловіч**

*Варшава*



*"Победа" будзе за імі?*
*Падчас візіту Лукашэнкі. Берасьце, 1996*

# Не ўпісаліся ў "окружающую праздничную обстановку"...

Мінула ўжо багата часу пасьля сьвяткаваньня Дня 1-га Мая, але для гісторыі цяперашняга рэжыму варта адзначыць некаторыя падзеі таго дня ў Берасьці. Нягледзячы на шматлікія заклікі кіраўнікоў працоўных калектываў і лідараў афіцыйных прафсаюзаў, першамайская дэманстрацыя і мітынг у Берасьці не сабралі значнай колькасьці народу. Нават тыя, што дайшлі да плошчы Леніна, дзе адбыўся мітынг, ня надта зьбіраліся слухаць выступоўцаў — многія адразу разыйшліся адзначаць сьвята ў больш вясёлых кампаніях, а іншыя проста гутарылі пра свае справы. Не было нічога новага ў прамовах вертыкальна-прафсаюзнай наменклатуры, якая час ад часу мяняе крэслы ды шыльды. А зьяўленьне ля бронзавага ідала апазіцыйных ленінцаў з ПКБ, якія шчыльным колам абступілі трыбуну з мясцовым чынавенствам, было цалкам зразумелым. Плошча яўна асірацела б бяз іхняй асабістай прысутнасьці ды заношаных лозунгаў, тыпу "Приватизация — обман народа", "Дружбе народов — да, национализму — нет!", з якімі лукашэнкаўская вертыкаль заўжды была салідарная.

Мясцовыя дэмакраты і члены Свабоднага прафсаюзу ў Дзень міжнароднай салідарнасьці працоўных паспрабавалі выказаць сваё стаўленьне да сацыяльна-палітычных праблемаў, што стаяць перад краінай. Але ж іхнія погляды прыйшліся не даспадобы начальству. Яшчэ падчас фармаваньня калоны міліцыянты "вызвалілі" рукі дэмакратаў ад бел-чырвона-белых сьцягоў і "няправільных" лозунгаў, тыпу "Наш дом — Беларусь!", "Свабода. Справядлівасьць. Незалежнасьць" і інш. Не спадабаўся начальству і транспарант са словамі А.Лукашэнкі: "Своё государство я за цивилизованным миром не поведу". Была адабрана нават звычайная шыльда з надпісам "БСДП "Народная Грамада". І ўсё ж ачысьціць калону ад "няправільных" лозунгаў не ўдалося — студэнцкая моладзь умудрылася прыхаваць на пэўны час лозунг, які заклікаў: "Свободу и независимость Управлению делами президента". Мяркуючы па рэакцыі міліцыянтаў, якія кінуліся забіраць транспарант, ягоны зьмест яны не ўхвалілі, што выклікала адабральны сьмех моладзі. Пасьля гэтага праколу ў калону да моладзі дзеля больш пільнага нагляду быў прыстаўлены капітан Алег Аксюта. Пабачыўшы каля плошчы Леніна шчыльныя рады міліцыянтаў, моладзь не ўтрымалася, каб не зачапіць іх і дружна крыкнула: "Слава савецкай міліцыі!" Абразы для сябе яны не адчулі, а капітан Аксюта гэтак расчуліўся, што не заўважыў у руках аднаго з хлопцаў сувенірнага літоўскага сьцяжка. Затое пільнасьць праявіў нейкі палкоўнік міліцыі. Маленькі сьцяжок стаў прычынай для разборак з носьбітам, як было сказана, "незарегистрированной символики". Сьцяжок неадкладна адабралі, а яе ўладальніка адпусьцілі толькі пасьля "тлумачальнай" гутаркі ў будынку Ленінскага райвыканкаму і перапісваньня пашпартных дадзеных.

Капітан Аксюта ўсё ж здолеў выправіць свой недагляд: заўважыўшы ў руцэ студэнта ўзьняты ўгору банан, ён прымусіў адразу ж зьнішчыць "фрукт". Банан, як высьветлілася, "не вписывался в окружающую праздничную обстановку". Падазрэньні ў капітана выклікалі таксама і хлопцы, якія фатаграфаваліся каля яго. Міліцыянт палічыў сябе абражаным, бо яго не папярэдзілі. Фотаапарат ён адабраў, а маладога фатографа запрасіў на размову ў Ленінскі райвыканкам. Запісаўшы пашпартныя дадзеныя, хлопца адпусьцілі, фотаапарат аддалі, але каляровую плёнку засьвяцілі.

1 Мая на мітынгу ў Берасьці было весела ўсім: моладзь выкідвала прыколы, міліцыянты "мужна" змагаліся з дэмакратамі, а ўлады цешыліся з таго, што АПАП і пажарныя машыны, якія стаялі недалёка ў дварах, не спатрэбіліся для разгону апазіцыі.

**Вікенцій Верамяюк**

# Лістападаўскі рэферэндум у Беларусі аналізуюць на Ўкраіне

У сярэдзіне красавіка гэтага году ў Кіеве падчас правядзеньня круглага стала, у якім бралі ўдзел прадстаўнікі палітычных сілаў Украіны і Беларусі, адбылася прэзентацыя кнігі "Уроки виборів та референдуму в Білорусі". Яе аўтары: Расьціслаў Міхеенка, Ігар Папоў, Яўген Радчанка. Гэтае выданьне падрыхтавана Камітэтам выбаршчыкаў Украіны. Асноваю для кнігі сталі падзеі, якія адбываліся ў Беларусі ў лістападзе 1996 году падчас сумнавядомага рэферэндуму.

Камітэт выбаршчыкаў Украіны, як вядома, быў фактычна адзінаю арганізацыяй, якая накіравала сваіх прадстаўнікоў у Беларусь для назіраньня за ходам рэферэндуму і давыбараў у наш парламент. Праца прадстаўнікоў КВУ атрымала шырокі розгалас у беларускай і замежнай прэсе, бо некаторым актывістам гэтай арганізацыі, якія выявілі падлог выбарчых дакументаў на адным з участкаў для галасаваньня ў Берасьці, давялося нават пасядзець за кратамі (гэты скандальны выпадак таксама знайшоў свой адбітак на старонках кнігі).

У кнізе дадзены аналіз заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь, Указаў прэзідэнта, высноваў Канстытуцыйнага Суду, прааналізаваны фактары, якія сталі вызначальнымі ў адыходзе Беларусі ад дэмакратычнай мадэлі разьвіцьця.

Аналізуючы сацыяльны партрэт беларускага грамадзтва напярэдадні рэферэндуму, аўтары кнігі асаблівую ўвагу ўдзяляюць дзейнасьці асноўнай апазіцыйнай сілы — БНФ. Назіраньні нашых украінскіх калегаў вартыя таго, каб сур'ёзна задумацца: "Дзейнасьць БНФ пасьля кароткага знаёмства дае падставы задаць шэраг пытаньняў. Чаму падчас рэферэндуму цэнтральны офіс партыі завалены сьвежавыдадзенай апазіцыйнай прэсай і ніхто яе не распаўсюджвае? Чаму там у тыя дні амаль маўчалі тэлефоны? Чаму лідары партыі папрасілі палітычнага прытулку ў ЗША і нават не спрабавалі зьвярнуцца да Ўкраіны? Чаму іншыя актывісты кажуць, што ў выпадку паражэньня яны таксама выедуць за акіян? Апазіцыйны рух занадта аслаблены і запужаны, каб успрымаць яго як рэальную сілу."

На выбарах і рэферэндуме міжнароднымі назіральнікамі з КВУ было складзена каля 1000 актаў пра парушэньне заканадаўства. Паводле падлікаў аўтараў кнігі, калі ўлічыць, што кожны назіральнік у сярэднім пабываў на 10 участках і на кожным з іх прысутнічаў 20-25 хвілінаў, то кожныя 4-5 хвілінаў на ўчастку было адно парушэньне заканадаўства. З пэўнай доляй умоўнасьці яны дапускаюць, што ў сярэднім на кожным участку было зроблена 150-200 парушэньняў. "Можна толькі ўявіць, як праходзіла галасаваньне там, дзе назіральнікаў не было",— пішуць аўтары. На іх думку, калі ўлічыць усе выяўленыя імі факты, якія адбіліся на выніках галасаваньня, то можна сьцьвярджаць, што А.Лукашэнку на рэферэндуме рэальна падтрымалі ня больш за 50% выбаршчыкаў, што прагаласавалі, а таму зьмены ў Канстытуцыю ня могуць быць унесеныя. Выснова аўтараў кнігі пра лістападаўскі рэферэндум у Беларусі наступная: "Забесьпячэньне прэзідэнцкім бокам правядзеньня галасаваньня неправавым шляхам, шматлікія парушэньні ў ходзе галасаваньня (у

# Мая міліцыя мяне беражэ!

У ноч перад Першамаем у Берасьці па падазрэньні ў зрыве лукашэнкаўскіх сьцягоў міліцыя затрымала двух студэнтаў-гісторыкаў мясцовага ўніверсітэту Юрыя Шульгана і Алеся Марачука. Апроч зрыву сьцягоў студэнтам таксама прыпісваюць надпіс на сьцяне ў цэнтры горада па вул.Савецкай: "Бацька! Не пужай нас НАТО, лепей выдай усім зарплату!"

Пададзеныя міліцыянтамі доказы Ленінскі раённы суд г.Берасьця палічыў дастатковымі, каб кваліфікаваць дзеяньні хлопцаў як дробнае хуліганства і прызначыў ім 3 сутак арышту.

Аднак адразу пасьля выхаду на свабоду абодва студэнты заявілі, што супрацоўнікі Ленінскага РАУС г.Берасьця выкарысталі супраць іх метады фізічнага і маральнага ціску, а іх дачыненьне да зьняцьця лукашэнкаўскіх сьцягоў і надпісу на вул.Савецкай ня мае доказаў. Паводле іх словаў, пры затрыманьні яны нават і не зьбіраліся аказваць ніякага супраціўленьня людзям, якія былі ў бронежылетах і з аўтаматамі. Тым ня менш, пасьля таго, як ім надзелі наручнікі, іх жорстка, да крыві, зьбілі рукамі, нагамі ды гумавымі дубінкамі, а на Юрыя Шульгана да таго ж нацкавалі службовага сабаку, які моцна яго пакусаў.

Падчас допытаў у Ленінскім РАУС міліцыянты (што парадаксальна — некаторыя з іх мелі ўзнагароды са знакам "Пагоня") вымушалі студэнтаў даваць супраць сябе самыя неверагодныя "паказаньні", патрабавалі выдаць "сообщников" і прызнацца ў аказаньні супраціўленьня міліцыі пры затрыманьні. У ход была пушчана ня толькі зьневажальная брудная лаянка на адрас затрыманых і іх блізкіх (мацюкі — хіба ўжо норма для многіх людзей у пагонах нават на вуліцах горада), нахабныя пагрозы насільля, тыпу "отобъём мозги и все внутренности", "будешь мочиться кровью", "отобъём всё, что можно, а потом ты просто умрёшь от несчастного случая и никто ничего не докажет, а медэкспертиза всё это подтвердит" і да т.п. Сьледчыя з веданьнем справы білі студэнтаў кулакамі і нагамі па твары, па галаве, па сьпіне, па грудной клетцы, цягалі за валасы, ня раз рабілі "ластаўку", усяляк зьдзекваліся, імкнучыся прынізіць чалавечую годнасьць хлопцаў, вядома ж, пагражалі выключэньнем з універсітэту...

У ходзе гэтых допытаў хлопцаў прымушалі прызнацца нават у тым, што, нібыта, год таму на 1 Мая яны здымалі лукашэнкаўскія сьцягі ў Бярозе і Драгічыне (хлопцы адтуль родам). Вельмі ўжо хацелі выбіць з хлопцаў прызнаньне пра тое, што яны выконвалі загад калі не агентаў ЦРУ, дык хаця б БНФ.

Пасьля трох сутак адсідкі, адразу пасьля выхаду на волю, студэнты зьвярнуліся ў гарадзкую бальніцу, дзе, пасьля медычнага агляду, усе сьляды пабояў былі зафіксаваныя дзяжурным урачом-траўматолагам. Ягоны дыягназ быў наступны: у Ю.Шульгана — "рана паховой области справа, множественные ушибы грудной клетки, поясничной области, бёдер, голени"; у А.Марачука — "ушибленая рана верхней губы, множественные ушибы бёдер, поясничной области справа". Студэнты напісалі таксама скаргу на дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі пракурору Ленінскага раёну г.Берасьця, у якой адмовіліся ад дадзеных пад прымусам паказаньняў і прайшлі судова-медычную экспертызу, якая нават праз некалькі дзён пацьвердзіла наяўнасьць сьлядоў пабояў.

Пакуль Ю.Шульган і А.Марачук сядзелі пад арыштам, студэнты Берасьцейскага ўніверсітэту за два дні сабралі каля паўтысячы подпісаў студэнтаў і выкладчыкаў у абарону сваіх калегаў, каб прадухіліць іх магчымае выключэньне з універсітэту. Дзякаваць Богу, у некага пакуль хапіла розуму ня ставіць так пытаньне.

У сёньняшняй палітычнай сітуацыі прыходзіцца моцна сумнявацца ў рэальнасьці пакараньня міліцыянтаў, якія ўчынілі зьдзек над затрыманымі студэнтамі. Больш таго, справа яшчэ не закрыта, а на студэнтаў і іх сваякоў пачаўся псіхалагічны ціск.

Складваецца ўражаньне, што з гэтай справы хацелі б зрабіць узорна-паказальную, якая была б пэўнай навукай іншым. Але моладзь ня надта запужаеш...

Характэрна, што для затрыманьня двох студэнтаў спатрэбілася мноства людзей у бронежылетах, з аўтаматамі ды сабакамі, а ў Ленінскім РАУС імі займаліся далёка не шэрагоўцы, былі і нейкія асобы ў цывільнай вопратцы. Трэба разумець, мноства антылукашэнкаўскіх надпісаў, якія зьявіліся апошнім часам у розных раёнах Берасьця, прынесьлі немалы галаўны боль мясцоваму начальству.

Але ж няўжо ў міліцыі няма іншага клопату, чым лавіць моладзь, якая ня хоча жыць ва ўмовах дыктатуры? Да кожнай сьцяны ці плоту міліцыянта не паставіш. Няўжо для нашых служак закону і правапарадку лічыцца лепшым лішні раз выслужыцца перад дыктатарам-самадурам, чым займацца сваёй непасрэднай працай — падтрымліваць захаваньне бясьпекі ў горадзе? Сёньня ўсе мы можам падвергнуцца нападу звар'яцелага бандыта-алкаголіка, як гэта нядаўна здарылася ў Берасьці з намесьнікам начальніка Маскоўскага РАУС г.Берасьця і ягоным сынам ці трапіць пад нож наёмнага забойцы, як гэта было ў мікрараёне Бярозаўка, дзе выразалі ўсю сям'ю, а кілер, як мяркуюць, проста памыліўся адрасам (дарэчы, ён так і ня знойдзены). Ці ж ня час людзям у пагонах падумаць пра сваю кар'еру, пра сваіх блізкіх і пра будучыню ўсёй нашай Беларусі?

**Ігар Бараноўскі**

---

тым ліку і зафіксаваныя міжнароднымі назіральнікамі), па сутнасьці — поўнае грэбаваньне Законам пры гэтым даюць нам падставы па меншай меры ставіць пад сумнеў як канстытуцыйнасьць і законнасьць рэферэндуму, так і правамернасьць ягоных вынікаў."

Выдадзеная Камітэтам выбаршчыкаў Украіны кніга пра беларускі рэферэндум мае выключную цікавасьць для нашых палітыкаў, бо напісана староньнімі назіральнікамі. Але найперш кніга разьлічана ўсё ж на ўкраінскага чытача. Аўтары кнігі спадзяюцца, што зроблены імі аналіз лістападаўскіх падзеяў у Беларусі будзе карысным каб зрабіць неабходныя высновы адносна эксперыменту, які мае месца ў цэнтры Еўропы напрыканцы XX стагоддзя. Але небясьпечныя тэндэнцыі ў грамадстве, якія праявіліся ў Беларусі ў такіх гіпертрафіраваных маштабах, маюць месца на ўсёй постсавецкай прасторы. Таму аўтары лічаць сваёй задачай папярэдзіць украінскае грамадства ад паўтарэньня беларускага вопыту.

**Ігар Бараноўскі**




*Міліцыянты на працы...*

# Ініцыятыва мусіць быць пакарана?

У рэдакцыю "Шляху" трапіла копія калектыўнага ліста жыхароў Івацэвіцкага раёну, якія спрабавалі такім чынам абараніць Уладзіміра Кудзінава — мясцовага прадпрымальніка, які зьяўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь (уваходзіў у фракцыю "Грамадзянскае дзеяньне"), а таксама дэпутатам Івацэвіцкага раённага Савету.

Вось ужо амаль паўгода ён знаходзіцца пад арыштам. Шмат хто лічыць, што справа мае яўнае палітычнае адценьне. Для гэтага трэба ўзгадаць хоць бы тую сапраўдную вайну супраць У.Кудзінава і яго фірмы, якая пачалася напярэдадні сумнавядомага лістападаўскага рэфэрэндуму. Сёньня плён працы Уладзіміра Кудзінава, дзякуючы арганізаванай лукашэнкаўскімі чыноўнікамі траўлі, фактычна зруйнаваны. У свой час абураныя жыхары Івацэвічаў за адзін дзень сабралі 511 подпісаў пад лістом да пракурора з просьбай вызваліць У.Кудзінава да суда. Аднак ліст быў праігнараваны...

У.Кудзінаў быў арыштаваны па падазрэньні ў спробе дачы хабару (500$) супрацоўніку ДАІ. Адбылося гэта пасьля таго, як 4 лютага 1997 году ў Барысаўскім раёне была затрымана машына, што належыць фірме Кудзінава. Падставаю для гэтага сталі быццам бы кепска афармленыя дакументы на мясную прадукцыю, якая вывозілася ў Расею. Каб высьвятліць сітуацыю, Кудзінаў быў вымушаны паехаць у Барысаў. На працягу некалькіх гадзінаў яму даводзілі, што невялікая сума можа вырашыць праблему...

Тое, што падобныя сітуацыі на беларускай мяжы ўзьнікаюць кожны дзень — добра ведае кожны, хто хоць аднойчы перасякаў мяжу. Сумы хабару фігуруюць і значна большыя. Толькі ня кожны атрымлівае такое пакараньне. Якім будзе канчатковае рашэньне суда, колькі давядзецца сядзець У.Кудзінаву — вядома, хіба, толькі аднаму Лукашэнку.

<u>*Даведка пра У.Кудзінава:*</u>

Уладзіміру Кудзінаву 38 гадоў, нарадзіўся ён на Случчыне, у в.Танежыцы. У 1981 годзе скончыў інжынерна-эканамічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытуту. Незважаючы на прапановы застацца працаваць у інстытуце, вырашыў вярнуцца ў Івацэвічы. Напачатку працаваў як юрысконсульт і галоўным бухгалтарам. У 1990-91 гг. быў прызначаны выконваючым абавязкі галоўнага падаткавага інспектара, а затым намесьнікам начальніка падаткавай інспекцыі Івацэвіцкага раёну пры Міністэрстве фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Дасягнуўшы высокага становішча дзяржаўнага чыноўніка, ён вырашыў спыніць кар'еру і заняўся гаспадарчай дзейнасьцю. У 1992 годзе ён стаў дырэктарам гандлёва-прамысловай фірмы "Івацэвічы". Ягоная фірма "Івацэвічы" не адносілася да тых, што займаюцца адно сьпекуляцыйным гандлем, яна не ганяла эшалонамі танную гарэлку ў братнюю Расею, як гэта робяць прэзідэнцкія камерцыйныя структуры. Пры неспрыяльнай дзяржаўнай палітыцы адносна прадпрыемстваў, якія займаюцца вытворчасьцю, фірма У.Кудзінава выразны акцэнт у сваёй дзейнасьці рабіла менавіта на вытворчасьці прадуктаў харчаваньня. Варта адзначыць таксама, што У.Кудзінаў дапамог стаць на ногі мясцовай незалежнай газеце, якая выходзіла двойчы на тыдзень.

<u>*В суд г.Борисова*</u>

***Мы, граждане Ивацевичского района и избиратели депутата ВС Республики Беларусь 13-го созыва Кудинова В.А., обращаемся в суд г.Борисова со следующим заявлением и просьбой:***

Владимир Алексеевич являлся директором торгово-промышленной фирмы "Ивацевичи". За короткое время фирма под его руководством превратилась в одно из крупных коммерческих предприятий Брестской области. Она объединила более 27-ми стационарных магазинов, подсобное хозяйство с откормом более тысячи голов крупного рогатого скота и свиней, вела огромное строительство животноводческого комплекса в д.Гичицы по выращиванию и откорму двух тысяч голов свиней, реконструкцию и строительство цехов по переработке говядины и свинины.

В ТПФ "Ивацевичи" работало 320 работников различных специальностей: свинарки, доглядчики крупного рогатого скота, продавцы, электрики, слесари, строители и т.д. В перспективе с вводом новых мощностей по переработке продукции число рабочих мест увеличивалось бы.

Фирма под руководством В.А.Кудинова взяла на себя заботы по обеспечению населения района продовольственными и промышленными товарами. Их продажа велась по ценам ниже государственных, торговые наценки были ниже в полтора-два раза, чем наценки в системе потребкооперации. Торговые точки фирмы отличались высококультурным сервисом, в них преобладала высокая культура обслуживания и вежливое обращение продавцов с нами, покупателями. Мы имели возможность в магазинах фирмы почувствовать себя людьми, а не толпой, которая часами изнурялась в очередях. В общем, организованная им сеть магазинов принесла не только нам, простым людям, выгоду, но и выгоду государству. Достаточно сказать, что ежемесячно фирма перечисляла в бюджет района 500-600 миллионов рублей налоговых платежей.

В.А.Кудинов, возглавляя фирму, вел большую гуманитарную деятельность. Оказывая безвозмездную помощь на сотни миллионов рублей организациям, учреждениям, товариществам и отдельным гражданам района, которые попали в беду или находятся за чертой бедности. Ее получали медицинские учреждения, церковь, инвалиды. В.А.Кудинов никогда не отказывал в материальной помощи школам: на приобретение материалов для их ремонта, проведение новогодних утренников в школах и садах, разных экскурсий и праздничных вечеров. Благодаря ему получали материальную помощь дети из малообеспеченных семей, не оставлены были без внимания ученики из тяжелых семей. Благородным поступком директора является подарок его фирмы, преподнесенный участникам войны в канун 50-летнего юбилея нашей Победы над гитлеровским фашизмом. В качестве единовременного пособия ветеранам войны по личной инициативе В.А.Кудинова фирма выделила из своих средств 40 миллионов рублей.

Однако трудовая и общественная деятельность В.А.Кудинова не находила поддержки в местных органах власти. Более того, постоянно велась непонятная нечистая игра вокруг и фирмы "Ивацевичи", и самого В.А.Кудинова. Приведем один пример. Ивацевичский райисполком вопреки существующему законодательству отобрал у фирмы 180 га земли, которая снабжала кормами подсобное хозяйство "Гичицы". Сейчас эта земля пустует, зарастает кустарником. Но и подсобное хозяйство прекратило свою деятельность, потому что на привозных кормах сотни голов скота удерживать невозможно.

К депутату В.А.Кудинову люди обращались по различным, в том числе жизненно важным вопросам. Так, избиратели были возмущены распределением чернобыльских квартир, построенных в г.Коссово. В.А.Кудинов занимался детально этим вопросом и выяснил, что государству был нанесен урон в сумме более 2 миллиардов рублей. Это подтвердил начальник службы контроля Президента по Брестской области Синевич. Видимо из-за такой принципиальной позиции В.А.Кудинову постоянно угрожали расправиться и с фирмой, и с ним лично.

Даже этот поверхностный и беглый пересчет деятельности фирмы показывает, что многоотраслевое хозяйство и многогранная деятельность требовали от ее руководителя больших теоретических и практических знаний, организаторских способностей, коими он обладает.

К тому же мы знаем, что В.А.Кудинов является честным, порядочным и отзывчивым человеком. Слава Богу, мы все стали понимать, что он работал не столько на себя, сколько на общество в целом. 67,2 процента избирателей, в том числе и мы, поверили ему — молодому и талантливому организатору производства, экономисту — и в 1995-м году на выборах в Верховный Совет Республики Беларусь отдали свои голоса за В.А.Кудинова. И мы верим ему до конца, ибо он эту веру доказывал своей честностью, порядочностью, отзывчивостью и своим гуманным, заботливым отношением к нуждам простых людей и в интересах всего общества. С этой верой мы и приходили к нему на прием как к депутату Верховного Совета Республики Беларусь со своими надеждами, в которых он всегда старался разобраться и помочь.

Исходя из всего сказанного просим суд г.Борисова не лишать В.А.Кудинова свободы. На свободе он принесет пользу людям, нашему обществу.

V Зьезд БНФ "Адраджэньне" Менск, 21 чэрвеня 1997 году

# Беларусь — у Эўропу!

## Стратэгія абароны незалежнасьці

Незалежнасьць дзяржавы — неацэнная каштоўнасьць кожнай нацыі. Але незалежная дзяржаўнасьць Беларусі, не пасьпеўшы замацавацца, зноў знаходзіцца пад пагрозай зьнішчэньня. Пагроза зыходзіць ад імперскай Расеі, кіраўніцтва якой імкнецца да інкарпарацыі нашай краіны як каланіяльнымі, гэтак і неакаланіяльнымі метадамі.

У Беларусі пануе дыктатура расейскіх марыянетак на чале з Лукашэнкам. Рух краіны да дэмакратычных падставаў арганізацыі грамадзтва спынены, эканамічныя рэформы не вядуцца, дзяржава ўяўляе сабой лёгкую здабычу для расейскіх манаполіяў. Вынішчаюцца эканамічныя, духоўныя і нават фізічныя падставы выжываньня і перспектывы беларускай нацыі. Душыцца беларуская мова, нацыянальная культура і сістэма адукацыі, выціскаецца гістарычная памяць. Людзей зноў вымушаюць сяліцца ў чарнобыльскай зоне і вырабляць там сельскагаспадарчую прадукцыю. Барацьба за незалежнасьць сёньня — гэта барацьба з антынародным рэжымам Лукашэнкі.

Мэты і задачы БНФ "Адраджэньне", акрэсьленыя папярэднімі зьездамі нашага руху, застаюцца нязьменнымі. Галоўная праграмная мэта Беларускага Народнага Фронту — вольны чалавек у адроджанай незалежнай Беларусі — нязьдзейсьненая. Наперадзе — нялёгкі перыяд, калі ўсе сілы павінны быць скіраваныя на абарону НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Беларусі.

## 1. Ацэнка становішча

Змаганьне Беларускага Народнага Фронту супраць лукашэнкаўскага рэжыму дало канкрэтны плён. Засьведчана бесьперсьпектыўнасьць антыбеларускага курсу лукашызму. Найбольш актыўная і адукаваная частка беларускага грамадзтва не прымае дыктатуры і гатовая на дзейсны супраціў ёй. Гэта, у сваю чаргу, спрыяе ўзмацненьню міжнароднай ізаляцыі рэжыму.

Разам з тым пасьля краху восеньскай (1996 г.) спробы Вярхоўнага Савету распачаць працэдуру імпічменту дыктатара нутраная кансалідацыя рэжыму ўзмацнілася. Антылукашэнкаўскія сілы, надзвычай разнастайныя паводле свайго складу і матывацыяў, апынуліся ў сітуацыі выбару: ці падтрымаць змаганьне з дыктатурай пад незалежніцкім лозунгам вяртаньня ў Эўропу, якое вядзе Народны Фронт, ці то балансаваць паміж Менскам і Крамлём, каб у выніку ўчыніць здраду і ганебна сысьці з палітычнай арэны. Таму існуе шанец згуртаваньня бальшыні сілаў, якія выступаюць супраць лукашэнкаўскай дыктатуры, на незалежніцкай глебе. Народны Фронт адкрыты для такога згуртаваньня.

Беларускі Народны Фронт — зьява, шырэйшая за звычайную палітычную партыю. Мы — нацыянальна-вызвольны рух, галоўны сёньня гарант незалежнасьці Беларусі, і мы мусім выкарыстаць шанец ператварыць барацьбу з дыктатарам у барацьбу за незалежнасьць і адраджэньне Бацькаўшчыны.

## 2. Антыбеларускі марыянеткавы рэжым і маскоўскі імперыялізм

Рэжым Лукашэнкі паводле свайго паходжаньня, мэтаў і спосабаў унутрана- і замежнапалітычнай дзейнасьці зьяўляецца марыянеткавым і часткова ажыцьцяўляе функцыі акупацыйнага. Ён выяўляе і бароніць не інтарэсы Беларусі і яе народу, а геапалітычны, эканамічны і вайсковы інтарэс Расеі.

Таму пагібельнай для лёсу Беларусі была б спроба выкарыстаць спрэчкі маскоўскіх груповак за кантроль над Беларусьсю ў мэтах барацьбы з рэжымам Лукашэнкі. Гэтыя гульні непазьбежна закончыліся б тым, што Масква выкарыстала б Лукашэнку для інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі, каб пасьля прыбраць яго з палітычнай арэны і захаваць уладу над нашай краінай праз наступных марыянетак.

Прамаскоўскі дыктатар урэшце сыдзе, а дзяржава застанецца. Неабходна змагацца з дыктатурай так, каб гэтую барацьбу ня выкарыстала ў сваіх інтарэсах імперская Расея. Для гэтага беларускае грамадзтва з аб'екту чужых маніпуляцыяў мусіць ператварыцца ў згуртаваны нацыянальнай ідэяй і надзелены палітычнай воляй суб'ект, з якім змушана будзе лічыцца нават імперыялістычны драпежнік.

Адзіным мірным выйсьцем з беларускага крызісу мог бы стаць сыход Лукашэнкі ў адстаўку пад ціскам усіх сілаў, што дамагаюцца аднаўленьня Канстытуцыі 1994 г. У іншым выпадку Беларусь могуць чакаць сілавыя варыянты разьвіцьця падзеяў. Каб іх прадухіліць, неабходна дамагацца адстаўкі незаконнага рэжыму ўсімі магчымымі сродкамі.

Выбары пры рэжыме Лукашэнкі ня могуць быць сумленнымі і дэмакратычнымі ў прынцыпе. Народны Фронт ня будзе ўдзельнічаць у антыдэмакратычных лукашэнкаўскіх выбарчых фарсах, а сканцэнтруе сваю дзейнасьць на абароне незалежнасьці краіны шляхам напасрэднай барацьбы з дыктатурай.

## 3. Вяртаньне ў Эўропу

Закончыўся "ялцінскі" перыяд у структураваньні эўрапейскай геапалітычнай прасторы. Пацьвердзілася, што Расея не жадае ўваходзіць у гэтую прастору як яе роўная і арганічная частка, што яна настойвае на правядзеньні лініі падзелу паміж уласна Эўропай і сваёй "сферай інтарэсаў". Захоўваецца палітычная і эканамічная нестабільнасьць Расеі, яна безупынна вядзе войны на сваіх каланіяльных ускраінах і ў суседніх краінах.

Перад Беларусьсю стаіць жорсткі і адназначны выбар, часу на які адведзена няшмат: ці застацца ў расейскай геапалітычнай прасторы, а значыць, наканаваць нашай краіне і яе народу трагічны лёс — страту незалежнасьці, войны, кроў і жабрацтва, ці то зрабіць рашучы рывок дзеля вяртаньня ў Эўропу, у яе палітычную, праўную, эканамічную, цывілізацыйна-культурную, абарончую прастору.

Народны Фронт лічыць: інтэграцыя ў Эўропу, вяртаньне ў наш спрадвечны і натуральны эўрапейскі дом — гарантыя, умацаваньня беларускай незалежнай дзяржаўнасьці і выжываньня беларускай нацыі. Беларусь гістарычна сфармавалася як тыповая цэнтральнаеўрапейская краіна, яе грамадзтва заўжды падзяляла традыцыйныя заходнія каштоўнасьці, і толькі расейская, а потым савецкая акупацыя гвалтам вырвала нашу краіну з яе натуральнага цывілізацыйна-культурнага кантэксту. У "Эўропе Айчынаў" мы можам быць самімі сабой, роўнымі сярод роўных.

Народны Фронт выступае за ўваход незалежнай дэмакратычнай Беларусі разам з сваімі цэнтральнаеўрапейскімі суседзямі — краінамі Балтыі, Польшчай, Украінай — у эўрапейскія палітычныя, гаспадарчыя і абарончыя структуры. Разам з тым мы падтрымліваем усе ініцыятывы, якія замацоўваюць каардынацыю палітыкі і эканомікі краін Міжмор'я — Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы.

## 4. Якім быць Фронту

Фронт, ягоныя сябры і ягоныя структуры павінны стаць жыцьцядзейнай у любых умовах нацыянальна-вызвольнай сілай, вакол якой здольныя згуртавацца ўсе, хто стаіць на пазіцыі "Ніякіх інтэграцыйных гульняў з Расеяй" і ня йдзе на ўгоду з дыктатарскім рэжымам. Беларускі Народны Фронт як грамадзкі рух і беларускі народны фронт як сінонім шырокага супраціву дыктатарскаму антынароднаму антыбеларускаму рэжыму складаюць адно непарыўнае цэлае.

Уласна палітычная дзейнасьць у Беларусі паралізаваная ці адсунутая на ўзбочыну жыцьця: справядлівыя і дэмакратычныя выбары немагчымыя, растаптаны парламентарызм, душыцца свабода прэсы. Таму на першы план выходзяць іншыя метады барацьбы дзеля абароны незалежнасьці краіны, за вызваленьне Беларусі ад марыянеткавай дыктатуры. Гэта — метады ня вузкай палітычнай партыі, а шырокага, масавага нацыянальна-вызвольнага руху, які абірае канкрэтную тактыку дзеяньняў з увагі на сітуацыю. У гарманічным адзінстве павінны быць і метады вулічнай дэмакратыі, і грамадзянскае непадпарадкаваньне антызаконнай і антыбеларускай уладзе, і культурна-асьветная дзейнасьць, і прапагандовая актыўнасьць.

БНФ "Адраджэньне" падзяляе традыцыйныя кансерватыўныя каштоўнасьці эўрапейскай (заходняй) дэмакратыі. Гэта — пашана да свабоды і правоў чалавека, абарона культурных і сямейных каштоўнасьцяў, курс на ўмацаваньне нацыянальнай дзяржавы як механізму забесьпячэньня правоў асобы і правоў народу. У традыцыйным эўрапейскім палітычным сьпектры БНФ "Адраджэньне" сваіх найбліжэйшых палітычных партнёраў бачыць сярод партыяў цэнтрысцкай — кансерватыўнай і хрысьціянска-дэмакратычнай — арыентацыі.

*Прынята V Зьездам БНФ "Адраджэньне" 21 чэрвеня 1997 г.*

Заява V Зьезду БНФ "Адраджэньне"

## Аб перамовах паміж галінамі ўлады з пасярэдніцтвам Еўрапейскага Зьвязу

Еўрапейскі Зьвяз выступіў з крытыкай палітычнай сітуацыі ў Беларусі і прапанаваў сваё пасярэдніцтва ў кансультацыях паміж прэзідэнцкай уладай і легітымным парламентам 13-га скліканьня "з мэтай усталяваць адпаведны баланс паміж функцыямі і абавязкамі прадстаўнікоў заканадаўчай, выканаўчай і судовай галін улады, а таксама стварыць рэальныя механізмы, якія ўзмоцняць павагу да правоў чалавека і незалежных сродкаў масавай інфармацыі".

Беларускі Народны Фронт вітае шчырае жаданьне Еўрапейскага Зьвязу бачыць Беларусь дэмакратычнай еўрапейскай краінай. Увага Еўропы да сітуацыі ў Беларусі спрыяе нашай барацьбе за дэмакратыю і незалежнасьць, супраць дыктатуры і расейскага імпэрыялізму. Мы разумеем імкненьне легітымнай часткі Вярхоўнага Савета XIII скліканьня знайсьці мірнае выйсьце з канстытуцыйнага крызісу, справакаванага незаконным рэферэндумам 1996 г.

Аднак мы скептычна ставімся да перспектываў згаданых кансультацыяў нават у выпадку, калі яны рэальна пачнуцца. Галоўны чыньнік, які дазваляе Лукашэнку не зважаць на патрабаваньні міжнароднай супольнасьці, — гэта адкрытая падтрымка дыктатарскага рэжыму ў Беларусі расейскімі ўладамі. Ужо першыя крокі Лукашэнкі пасьля фармальнай згоды ўдзельнічаць у кансультацыях сьведчаць пра тое, што рэжым будзе цягнуць час і дыскрэдытаваць самую ідэю перамоваў. Пра стаўленьне Лукашэнкі да еўрапейскіх прапановаў сьведчыць і склад дэлегацыі ад прэзідэнцкага боку, куды ўваходзяць здыскрэдытаваныя другаступенныя асобы.

Амаральна сядаць за стол перамоваў, калі ў менскай сьледчай турме пакутуюць зьняволеныя за ўдзел у акцыях пратэсту. Любыя кансультацыі з рэжымам маюць сэнс толькі ў тым выпадку, калі агульнай праўнай асновай для іх будзе легітымная Канстытуцыя 1994 г., а ня вынікі антызаконнага рэферэндуму лістапада 1996 г., а таксама пры выкананьні наступных умоваў:

— неадкладнага вызваленьня з-пад варты ўсіх палітычных вязьняў;

— неадкладнага спыненьня ўсіх крымінальных і адміністрацыйных справаў супраць удзельнікаў масавых акцыяў пратэсту і адмены ранейшых прысудаў;

— адмены "дэкрэту № 5" і іншых антыканстытуцыйных актаў, якія нішчаць дэмакратычныя свабоды і парушаюць правы чалавека;

— рэгулярнага доступу дэпутатаў Вярхоўнага Савету і пазапарламенцкай апазіцыі ў жывы эфір Беларускага тэлебачаньня і радыё.

Народны Фронт пацьвярджае сваё перакананьне, што сапраўднае вяртаньне Беларусі ў праўнае поле і сям'ю цывілізаваных еўрапейскіх народаў магчымае толькі пасьля адстаўкі Лукашэнкі.

Заява V Зьезду БНФ "Адраджэньне"

## Аб праўнай нікчэмнасьці дамоваў рэжыму Лукашэнкі з Расеяй

Прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі падпісаў з Крамлём шэраг дамоваў, скіраваных на паступовае зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі. Але, як вядома, дыктатарскі рэжым у Менску ўчыніў дзяржаўны пераварот у форме незаконнага рэферэндуму, гвалтоўнага скасаваньня інстытутаў парламентарызму і незалежнага суду, патаптаньня правоў і свабодаў чалавека. Вынікі дзяржаўнага перавароту, лукашэнкаўская дыктатарская канстытуцыя і псеўдапарламент не прызнаныя нідзе ў сьвеце, акрамя Расеі. Зрэшты, рэжым Лукашэнкі страціў легітымнасьць раней — калі зьявіліся прэзідэнцкія ўказы, прызнаныя Канстытуцыйным судом супярэчнымі Канстытуцыі.

Таму любыя захады Лукашэнкі і прызначанага ім "нацыянальнага сходу", скіраваныя супраць незалежнасьці Беларусі, у тым ліку міжнародныя дамовы, усе акты супраць правоў і свабодаў чалавека ня маюць ніякай юрыдычнай сілы і будуць адмененыя адразу пасьля падзеньня рэжыму. Будзе праведзена расьсьледаваньне дзейнасьці службовых асобаў, якія рэалізоўвалі палажэньні незаконных актаў.

Заява V Зьезду БНФ "Адраджэньне"

## Спыніць перасьлед грамадзкіх арганізацыяў!

Рэжым Лукашэнкі метадычна вынішчае падставы грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, расколвае грамадзтва, імкнецца здушыць любыя непадкантрольныя яму ініцыятывы. Мэта рэжыму — ператварыць беларускае грамадзтва ў маўклівы, пакорлівы, падатны на прапаганду, пазбаўлены пачуцьця Радзімы і свабоды натоўп.

Але сотні ўзьніклых у Беларусі за апошнія гады няўрадавых грамадзкіх арганізацыяў — сьведчаньне адраджэньня беларускага народу да грамадзкага чыну, зарука жыцьцяздольнасьці беларускай грамадзянскай супольнасьці. Так, менавіта дзякуючы грамадзкім арганізацыям, а не афіцыйным уладам, сьвет даведаўся пра маштабы наступстваў Чарнобыля для Беларусі. Менавіта грамадзкія арганізацыі, а не дзяржаўныя структуры бароняць зараз беларускую культуру, мову, гістарычную памяць. Грамадзкія арганізацыі, а не дзяржаўныя "праваахоўныя" органы, адстойваюць правы і свабоды чалавека ў Беларусі.

Для задушэньня грамадзянскіх ініцыятываў рэжым выкарыстоўвае розныя метады. Ствараюцца фіктыўныя, падначаленыя адміністрацыі прэзідэнта псеўдаграмадзкія арганізацыі накшталт БПСМ — лукашыцкага камсамолу, утворанага на базе адыёзнага "Прямога действия". Функцыі грамадзкіх арганізацыяў намагаюцца пераняць прэзідэнцкія структуры накшталт новаўтворанага "дэпартамента па справах гуманітарнай дапамогі" адміністрацыі Лукашэнкі.

Адбываюцца непасрэдныя рэпрэсіі супраць грамадзкіх арганізацыяў ды іхных актывістаў. Улады, няздольныя дапамагчы пацярпелым ад Чарнобыля, пачалі цкаваньне найбуйнейшай і найбольш аўтарытэтнай у Беларусі, вядомай у сьвеце дабрачыннай арганізацыі — Беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля", які зарганізаваў аздараўленьне больш як 100 тысячаў беларускіх дзяцей. Кіраўнік Фонду, навуковец і дэпутат Генадзь Грушавы, стаў аб'ектам сфабрыкаванай уладамі крымінальнай справы супраць Фонду. Рэжым распраўляецца з іншымі грамадзкімі арганізацыямі, як гэта стала з Беларускім Фондам Сораса, фондам "Бацькаўшчына" у Горадні і г.д. Беларускі Народны Фронт патрабуе спыніць перасьлед грамадзкіх арганізацыяў ды іхных актывістаў. Мы заклікаем мінародную супольнасьць праявіць салідарнасьць з няўрадавымі арганізацыямі Беларусі, якія вядуць мужную барацьбу за дэмакратыю, свабоду і правы асобы.

Заява V Зьезду БНФ "Адраджэньне"

## Супраць зьнішчэньня беларускай нацыянальнай адукацыі

Кіруючыся планамі зьнішчэньня Беларускай дзяржаўнасьці, афіцыйны рэжым вядзе асабліва апантаны наступ у галіне нацыянальнай адукацыі: гвалтоўна звужаецца сфера ўжытку беларускай мовы, з імперскіх пазіцыяў пераглядаецца зьмест гістарычнай адукацыі, ад кіраўнічых пасадаў адхіляюцца нацыянальна сьвядомыя сьпецыялісты, беларускія аўтары пазбаўляюцца магчымасьці выданьня ўжо падрыхтаваных імі падручнікаў, праз афіцыёзныя моладзевыя арганізацыі выхоўваецца нігілістычнае стаўленьне школьнікаў і студэнтаў да нацыянальных каштоўнасьцяў.

Грамадзяне Беларусі фактычна пазбаўлены магчымасьці навучаньня на беларускай мове. Актыўная русіфікацыя ў адукацыйнай сферы прывяла, напрыклад, да таго, што за апошнія два гады набор у першыя беларускія класы ў г.Менску скараціўся з 58% да 12%, а ў гарадах Магілёўскай вобласьці з 67% да 1,7%.

Практычна вынішчана ўжываньне беларускай мовы ў вышэйшай адукацыі — у дзяржаве не існуе ніводнай ВНУ з навучаньнем на мове карэннага этнасу.

Сёньняшняя палітыка марыянеткавага рэжыму ў Беларусі зьяўляецца лагічным працягам палітыкі Расейскай імперыі і яе спадкаемцы Савецкага Саюза, скіраванай на асіміляцыю беларускай нацыі праз вынішчэньне беларускай адметнасьці.

Беручы пад увагу, што абавязковым атрыбутам незалежнай дзяржавы выступае нацыянальная мова, Беларускі Народны Фронт рэалізуе свае праграмныя палажэньні ў сферы адукацыі ў рамках механізму супрацьдзеяньня лукашэнкаўскаму антыбеларускаму рэжыму.

# Новае кіраўніцтва БНФ

**Старшыня і намесьнікі старшыні БНФ:**

ПАЗЬНЯК Зянон, *канд. мастацтвазнаўства, старшыня БНФ*

БАРШЧЭЎСКІ Лявон, *канд. філалагічных навук, намесьнік старшыні, в. а. старшыні БНФ*

БЕЛЕНЬКІ Юрый, *намесьнік старшыні*

ВЯЧОРКА Вінцук, *намесьнік старшыні*

ГУСАК Станіслаў, *намесьнік старшыні*

ПАПКОЎ Сяргей, *намесьнік старшыні*

ХАДЫКА Юрый, *прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук, намесьнік старшыні*

**Управа БНФ:**

АСТАШЫНСКІ Валянцін, *канд. фізіка-матэматычных навук, сакратар Управы*

БЯЛЯЦКІ Алесь, *дырэктар музея М.Багдановіча, старшыня Менскай гарадзкой Рады БНФ, сакратар Управы*

БУЙВАЛ Валерый, *прэсавы сакратар Управы*

КАЛУБОВІЧ Яўген, *сакратар Управы*

КАРОЛІК Віктар, *канд. тэхнічных навук, сакратар Управы*

КРЫВАРОТ Анатоль, *падпалкоўнік запасу, сакратар Управы*

НАВУМЧЫК Сяргей, *прэсавы сакратар Управы БНФ за мяжой*

СІЎЧЫК Вячаслаў, *адказны сакратар Управы*

ЧАХОЛЬСКІ Аляксандр, *сакратар Управы*

НЕСЬЦЕР Уладзімір, выканаўчы сакратар Управы *(Менск)*

**Сябры Сойму БНФ*:**

АСТРОЎСКІ Алесь, *доктар медыцынскіх навук (Горадня)*

БАНКЕВІЧ Генадзь, *падпалкоўнік запасу, старшыня Менскай абласной Рады БНФ (Менск)*

БАРАДУЛІН Рыгор, *народны паэт Беларусі (Менск)*

БЕЛЯНКОЎ Аляксандр *(Ашмяны)*

БЫКАЎ Васіль, *народны пісьменьнік Беларусі (Менск)*

ВОЛЬСКІ Артур, *пісьменьнік, старшыня Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў (Менск)*

ГЕРМЯНЧУК Ігар, *галоўны рэдактар газеты "Свабода" (Менск)*

ГРЫЦКЕВІЧ Анатоль, *прафесар, доктар гістарычных навук (Менск)*

ДЗЯГІЛЕВА Галіна *(Менск)*

ЗАБЛОЦКІ Ўладзімір, *канд. тэхнічных навук (Менск)*

КОБАСА Міраслаў, *старшыня Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі (Менск)*

КРЫЖАНОЎСКІ Мікалай *(Менск)*

КУЛІК Яўген, *мастак (Менск)*

КУПАВА Мікола, *мастак (Менск)*

МАЙСЕНЯ Людміла, *канд. фізіка-матэматычных навук (Менск)*

МАЛЬЧЫК Сяргей, *канд. медыцынскіх навук, старшыня Гарадзенскай гарадзкой Рады БНФ (Горадня)*

МАСЬЛЮКОЎ Тэльман *(Сьветлагорск)*

МУРАШКА Валерый *(Менск)*

НІКІТЧАНКА Іван, *прафесар, доктар сельскагаспадарчых навук, член-карэспандэнт АН Беларусі (Менск)*

ПАЛЬЧЭЎСКІ Юрый *(Менск)*

ПАЧКАЕЎ Мікалай *(Менск)*, *сябра аргкамітэту "Маладога Фронту" (Менск)*

ПРАТАСАЎ Сяргей *(Менск)*

РАМАНЦОЎ Уладзімір *(Менск)*

САВЕРЧАНКА Іван, *канд. філалагічных навук (Менск)*

СЕВЯРЫНЕЦ Павел, *сябра аргкамітэту "Маладога Фронту" (Менск)*

СТАНКЕВІЧ Анатоль, *канд. эканамічных навук (Менск)*

СТАРЧАНКА Ўладзімір, старшыня Гомельскай гарадзкой Рады БНФ *(Гомель)*

СУДНІК Станіслаў, падпалкоўнік запасу *(Ліда)*

СЬВІЗУНОЎ Вячаслаў *(Бабруйск)*

ТРУСАЎ Алег, *кандыдат гістарычных навук (Менск)*

ФЁДАРАЎ Анатоль, *старшыня Магілёўскай абласной Рады БНФ (Магілёў)*

ШУТ Алесь *(Лагойск)*

** пэўная квота ў Сойме выдзелена таксама тэрытарыяльным Радам; іх прадстаўнікі ў Сойме будуць вызначаны пазьней самімі Радамі*

## Заява V Зьезду БНФ "Адраджэньне"

У ноч з 19 на 20 чэрвеня 1997 года ў сябе ў кватэры быў незаконна арыштаваны в.а. старшыні БНФ "Адраджэньне" Лявон Баршчэўскі. Асаблівае абурэньне выклікае той факт, што гэты арышт адбыўся на фоне перамоваў прадстаўнікоў прэзідэнта і Вярхоўнага Савета пры пасярэдніцтве Еўрапейскага Зьвязу, скіраваных на вяртаньне Беларусі на глебу канстытуцыйнай законнасьці і забесьпячэньня правоў чалавека.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", легальна зарэгістраваны найбуйнейшы апазіцыйны рух на Беларусі, усю сваю дзейнасьць скіроўвае на абарону законнасьці і канстытуцыйнага ладу ў краіне. Арышт Л.Баршчэўскага напярэдадні V Зьезду БНФ "Адраджэньне" яскрава паказвае, якімі сродкамі супраць апазіцыі карыстаецца рэжым Лукашэнкі.

Гэта чарговы раз сьведчыць пра бяссэнсавасьць любых перамоваў з пануючым сёньня на Беларусі рэжымам.

## Вераніка Шульган-Цітова

***

Радавод у нас адзіны,
Тыя ж і паводзіны...
Толькі я люблю Радзіму,
А ты любіш "Родину".

***

Бывае, што зрэдку сьляза
На вочы нахлыне,
Бо радасна родную мову пачуць
Ва ўласнай краіне.
Зрэдку...

***

Ці гатовы ты загінуць?
Час няпэўны надыйшоў.
Ты прамовіў: "... за Радзіму",
А падумаў: "Ні за што!.."

***

Усё, што лічыцца непрыстойным,—
У нас забараняецца.
Дагэтуль я ня ведала, што праўда —
Гэта нешта непрыстойнае.

***

У дзьверы майго розуму
Гучна пастукалі:
Гэта прыйшлі па мяне.

***

З патрыятычных хваробаў
Я ведаю толькі адну:
ЗДРАДНІЦТВА.

*г.Берасьце*

## Актуальная спадчына

✻ *Калі Бог пакарае, ліхога чалавека пасылае.*

✻ *Не дай, Бог, сьвіньні рог, а мужыку панства.*

✻ *Хто гаварун, той ілгун.*

✻ *Языком меле, як хвастом целе.*

✻ *Годзе табе кляпаць, калі ж ты будзеш касіць?*

✻ *Захацеў у дзьве солі макаць, то можаш ніводнай ня мець.*

✻ *Божачка, Божачка! Час нямножачка, і тым няма дзе дзецца.*

✻ *Ярмо лёгкае, а цяжка.*

✻ *Кося, кося, у аглоблю, дам аброку, а там другою па боку.*

✻ *Хто гнецца, таго і гнуць.*

Гэтыя прыказкі сабраў і запісаў на Палесьсі вядомы беларускі фальклярыст, этнограф і мовазнаўца, ураджэнец вёскі Бялевічы, што на Случчыне, Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі (1864-1940). А.Сержпутоўскі — аўтар шматлікіх дасьледаваньняў матэрыяльнай і духоўнай спадчыны ня толькі беларусаў, але і расейцаў, татараў, габрэяў, палякаў, украінцаў, мардвы, народаў Каўказу. А.Сержпутоўскі пакінуў багатую спадчыну пра беларусаў-палешукоў, іх вераваньні і звычаі, промыслы, абрады і песьні.

Адметнае месца ў спадчыне вучонага займаюць прыказкі і прымаўкі. Ён падрыхтаваў рукапісны зборнік трапных народных выслоўяў, у якім было 10 000 тэкстаў. Гэтая праца не была апублікаваная, хоць за яе аддзяленьне этнаграфіі Расейскага геаграфічнага таварыства прысудзіла А.К.Сержпутоўскаму малы залаты медаль. У зборнік трапілі тэксты, запісаныя навукоўцам на сваёй малой радзіме — у паўднёвай частцы Слуцкага і паўночнай частцы Мазырскага павету. Інфарматарамі былі жыхары вёсак Чудзін, Будча, Дзяніскавічы, Колкі, Вялікі Рожан, Малы Рожан, Бучацін, Камаровічы, Бобрык, Навасёлкі і інш. (сёньня — Ганцавіцкі раён Берасьцейскай вобласьці і сумежныя раёны Меншчыны).

Прыказкі і прымаўкі, запісаныя А.Сержпутоўскім на пачатку стагоддзя, выяўляюць мудры погляд беларусаў-палешукоў на сьвет, прыроду, на чалавека, даюць трапную лаканічную характарыстыку людзям і зьявам, дапамагаюць арыентавацца ў супярэчлівым сучасным жыцьці. І ня дзіўна, што да выбраных прыказак са збору А.Сержпутоўскага просіцца яшчэ адна, ня менш надзённая і актуальная: "Не фігуруйся, Грышачка!" Але гэта ўжо з запісаў Фёдара Янкоўскага...

**Сьвятлана Варонік**

# Чым жыве берасьцейская моладзь?

Ва ўмовах сёньняшняга складанага жыцьця, здаецца, вельмі проста разгубіцца і страціць арыенціры. Нялёгка ўсім, але, напэўна, найбольш праблемаў мае сёньня маладая частка грамадзтва, бо старыя жывуць успамінамі, сяк-так атрымліваючы сваю пеньсію, сярэдняе пакаленьне, неяк уладкаваўшыся, вырашае будзённыя праблемы, а моладзь робіць толькі першыя крокі ў сваім самастойным жыцьці і невядома, якая будучыня яе чакае.

У сакавіку гэтага году сярод студэнцкай і вучнёўскай моладзі Берасьця было праведзена апытаньне "Что я хочу в жизни" (анкета была складзена на расейскай мове, але, што цікава, 5% маладых берасьцейцаў адказалі на пытаньні ўсё ж па-беларуску). Анкета была распрацавана віцебскім выкладчыкам Я.Вежнаўцом, які ўжо не адзін год займаецца вывучэньнем маладзёвага пытаньня. Мэтай дадзенага дасьледаваньня зьяўлялася выяўленьне адносінаў сучаснай моладзі да жыцьця і агульначалавечых каштоўнасьцяў, а таксама стаўленьне маладых людзей да саміх сябе, уласнага лёсу і будучыні.

Першае пытаньне анкеты было накіравана на тое, каб высьвятліць, як жа адчувае сябе малады чалавек сёньня. Выявілася, што асноўная частка маладых берасьцейцаў лічыць, што ў цэлым іх жыцьцё складваецца някепска: 8% апытаных цалкам задаволеныя уласным жыцьцём, а яшчэ 33% адказалі, што хутчэй за ўсё задаволеныя. Аднак трэцяя частка апытаных — 29% — незадаволеная ўласным жыцьцём, а 30% не змаглі адказаць на гэтае пытаньне.

Што да ўяўленьняў моладзі пра сваю будучыню, большасьць



настроена даволі аптымістычна, у змрочных фарбах яе ўвогуле ніхто ня бачыць. Толькі 11% апытаных пабаяліся даваць нейкі прагноз. Найбольшая частка апытаных зьвязвае магчымасьць уласнага посьпеху ў будучыні з наяўнасьцю добрай працы (37%). Наступны па важнасьці фактар, які можа стацца гарантам добрага ўладкаваньня ў жыцьці,— атрыманьне вышэйшай адукацыі. Яго адзначылі 21% апытаных. Ня менш важным фактарам для моладзі зьяўляецца наяўнасьць моцнай сям'і. Без гэтай умовы ня бачаць шчаслівай будучыні 16% апытаных. Вартым увагі ёсьць тое, што 9% маладых берасьцейцаў сьпецыяльна адзначылі, што не ўяўляюць сабе шчаслівай будучыні бяз зьмены сёньняшняй улады, рэфармаваньня эканомікі і захаваньня незалежнасьці нашай краіны.

Адказваючы на пытаньне "Што неабходна для таго, каб ваша будучыня была такой, якой Вы яе сабе ўяўляеце?", 35% вылучылі розныя патрабаваньні да саміх сябе, а 45% — да іншых (у тым ліку 13% — да дзяржавы). У цэлым, берасьцейская моладзь разумее, што, каб дасягнуць сваёй мары ў жыцьці, трэба найперш добра вучыцца (25%) і шмат працаваць (16%).

Тым ня менш, у адказах на наступнае пытаньне анкеты "Што Вы робіце для таго, каб Вашая будучыня была такой, як Вы жадаеце?" 16% маладых берасьцейцаў адзначылі, што ўвогуле нічога ня робяць. Але пераважная большасьць апытаных для ажыцьцяўленьня сваіх жыцьцёвых планаў нешта робіць: вучацца (43%), самаўдасканальваюцца (11%), займаюцца грамадзкай дзейнасьцю і змагаюцца з жыцьцёвымі цяжкасьцямі (10%), працуюць (7%), шукаюць (6%), а іншыя таксама сьмяюцца і кахаюць, спадзяюцца і чакаюць, моляцца і жартуюць.

Што да сістэмы каштоўнасьцяў берасьцейскай моладзі, прыемна адзначыць, што самы высокі рэйтынг у моладзі мае сям'я (адзначылі 19% апытаных), 18% апытаных адзначылі вернасьць, справядлівасьць, суперажываньне і інш. Трэцюю пазіцыю ў сістэме каштоўнасьцяў займаюць грошы. Свае сэрцы ім аддалі 15% маладых людзей. Але амаль столькі ж — 14% — вызначылі ў якасьці каштоўнасьцяў для сябе свабоду, радзіму, нацыю.

Ня можа не насьцярожваць колькасьць маладых людзей, якія гатовы зьехаць за мяжу — 55% (як паказала анкетаваньне, у іншых рэгіёнах Беларусі гэты паказчык яшчэ больш — каля 70%!). Хочуць застацца ў Беларусі 26% (у цэлым па Беларусі — 13%), астатнія ж 19% — ня ведаюць. Гэта значыць, што калі сітуацыя ў краіне ня зьменіцца, ня выключана, што і гэтыя маладыя берасьцейцы могуць рашыцца пакінуць сваю радзіму. Для тых, хто гатовы зьехаць з Беларусі, найбольшай прыцягальнасьцю вызначаецца Нямеччына (21%), затым ідуць ЗША (18%) і Францыя (13%). Славянскія краіны прываблівaюць 9% апытаных. Сярод краінаў, што таксама згадваюцца,— Канада, Аўстралія, Швецыя, Швейцарыя, Літва, Эстонія, Малдова, Расея і інш.

58% сёньняшніх маладых берасьцейцаў ня мае ў жыцьці ніякага ідэалу. Тыя ж маладыя людзі, якія маюць свой жыцьцёвы ідэал, найчасьцей згадваюць Хрыста ці нейкі зборны вобраз чалавека з ідэальнымі якасьцямі. У цэлым жа моладзь шукае свой, ні на чый не падобны шлях у жыцьці. Яны, маладыя, хочуць быць асобамі, думаюць і далей працягваць адукацыю (72%), працаваць і прыстойна зарабляць (55%). Як напісана было ў адной анкеце: "Хачу жыць, працаваць і не паддавацца чужому ўплыву".

*Падрыхтавала*
**Вераніка Шульган-Цітова**

# Асоба і арганізацыя

У нашым грамадзтве існуе думка, што беларусы млявыя, пасіўныя і неамбітныя людзі, што сярод іх цяжка знайсьці сапраўдных лідараў. Але "круглы стол" на тэму "Асоба і арганізацыя: набыцьцё сілы", які быў наладжаны 6 ліпеня ў Берасьці абласным аддзяленьнем "Аб'яднанага шляху" для прадстаўнікоў дзевяці арганізацыяў Берасьця і вобласьці, засьведчыў, што ня ўсё так дрэнна: у нас ёсьць вялікі патэнцыял. Прынамсі, сярод маладых берасьцейцаў ёсьць нямала асобаў, якія могуць ня толькі нараджаць цікавыя ідэі, але арганізоўваць і весьці за сабой іншых. Падчас дзелавой гульні яе ўдзельнікі выкарыстоўвалі настолькі разнастайныя метады і сродкі ўплыву для актывізацыі дзейнасьці сваіх "арганізацыяў", што здалося, мы апынуліся не ў Беларусі, дзе душыцца любая ініцыятыва і праява самастойнасьці, а ў нармальнай еўрапейскай краіне, дзе трэці сектар за часы шматгадовай дэмакратычнай традыцыі набыў сапраўдную моц і ўплыў у грамадзтве.

Найбольш складаная праблема, якую абмеркавалі ўдзельнікі "круглага стала", — існаваньне ў кожнай грамадзкай арганізацыі так званага "баласту", г.зн. тых, хто, зьяўляючыся сябрам арганізацыі, па нейкіх прычынах не бярэ актыўнага ўдзелу ў яе справах. Патэнцыйна кожны, хто прыйшоў у грамадзкую арганізацыю, мае патрэбу ў актыўнай дзейнасьці, але кожны разумее яе па-свойму, аднак рэалізаваць свае ідэі ці ня можа, ці саромеецца. Нярэдка бывае, калі такія сітуацыі вядуць да ўнутраных крызісаў у арганізацыі.

Да чаго ж прыйшлі ўдзельнікі "круглага стала"? Людзі, якіх кіраўнікі арганізацыі часьцяком лічаць баластам

# Абарані сябе сам!

Сёньня насьпела патрэба ў больш цесным супрацоўніцтве самых розных грамадзкіх арганізацыяў на ўзроўні агульных інтарэсаў і актуальных агульначалавечых праблемаў. Міжнародны семінар "Грамадзкія арганізацыі на шляху да абароны правоў і інтарэсаў насельніцтва Еўрарэгіёна "Буг", які наладзіў Берасьцейскі абласны цэнтр разьвіцьця грамадзкіх арганізацыяў "Аб'яднаны шлях" сумесна з "Камітэтам выбаршчыкаў Украіны", зьявіўся першым крокам да пашырэньня такога ўзаемакарыснага супрацоўніцтва. Як высьветлілася, ён дасягнуў мэты — выявіў прыярытэтныя накірункі працы з насельніцтвам у Еўрарэгіёне "Буг" і вызначыў сумесныя праграмы доўгатэрміновага супрацоўніцтва рэсурсных цэнтраў памежных рэгіёнаў Беларусі, Украіны і Польшчы. Семінар стаў падставай для распрацоўкі двухбаковых і трохбаковых праектаў паміж арганізацыямі гэтых краінаў.

13-14 чэрвеня Берасьце сустракала прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў Еўрарэгіёна "Буг". На семінары было шмат грамадзкіх арганізацыяў з Украіны: Фундацыя князёў-дабрадзеяў Астрожскіх (г.Роўна), Таварыства абароны правоў і годнасьці вучняў "Фортэцяя" (Тэрнопаль), Заходне-украінскі рэсурсны цэнтр (Львоў), Арганізацыя украінскіх нацыяналістаў (Луцк), "Просвіта" (Луцк), Рэспубліканская хрысьціянская моладзь (Луцк). Іх патэнцыял і жаданьне падзяліцца сваім багатым вопытам пакінулі прыемнае ўражаньне. Было відаць, што нашыя суседзі зацікаўленыя ў пашырэньні кантактаў з беларускімі арганізацыямі, дасьведчаныя ў беларускіх праблемах і гатовыя дапамагчы ў іх вырашэньні.

На жаль, прадстаўніцтва польскіх арганізацыяў было больш сьціплым. На семінар з Польшчы здолелі прыехаць толькі прадстаўнікі "Клуба мілосьнікаў Валыні і Палесься" (Варшава). Праблематыка, якая была прадстаўлена польскім бокам, абмяжоўвалася праблемамі адной арганізацыі і не дала поўнага ўяўленьня пра сітуацыю ў трэцім сектары польскага памежжа.

З беларускага боку ў семінары ўзялі ўдзел прадстаўнікі добра вядомых арганізацыяў і рэсурсных цэнтраў — Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі , "Аб'яднанага шляху", Беларускага саюзу моладзі, "Старога гораду" (Берасьце), Саюзу палякаў у Беларусі, Свабоднага прафсаюзу Беларусі, Клубу дзелавых і прафесійных жанчынаў (Берасьце) і новых ці менш вядомых — прадстаўнікі гарадзкой арганізацыі Задзіночаньня беларускіх студэнтаў, Беларускай асацыяцыі студэнтаў права (Берасьце), Маладзёвага цэнтру гуманітарных дасьледваньняў і інфармацыі "Форум" (Берасьце), "Маладзік" (Берасьце, Баранавічы), грамадзка-культурная сябрына "Плошча" (Пінск), "Мроя" (Пінск), "Просвіта Берестейщини" (Берасьце), "Беларуска-польскі клуб" (Берасьце), СККК "Сіндо" (Берасьце), гісторыка-культурнае аб'яднаньне "Бяроза Картузская" (Бяроза).

На пачатку семінару сацыёлаг Анатоль Лысюк даў аналіз сітуацыі, у якой працуюць сёньня беларускія грамадзкія аб'яднаньні. На яго думку, нягледзячы на розныя перашкоды з боку дзяржавы, глеба для дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў не такая ўжо і кепская, як гэта нам здаецца. Трэба толькі правільна скіроўваць свае намаганьні.

Вядучыя семінару Яўген Радчанка і Аляксей Лічкавах ("Камітэт выбаршчыкаў Украіны", Кіеў) і Ірына Лаўроўская ("Аб'яднаны шлях", Берасьце) прапанавалі інтэнсіўную і цікавую форму семінару ў выглядзе дзелавой гульні. Першы блок семінару пазнаёміў удзельнікаў з тым, як правільна вызначаць і выбіраць праблему для дзейнасьці грамадзкай арганізацыі. З гэтым сутыкаецца кожны, хто неабыякавы да праблемаў грамадзтва.

Аўдыторыі, якую складалі людзі з рознымі грамадзкімі поглядамі і інтарэсамі, было прапанавана выбраць некалькі актуальных праблемаў, з якімі яны штодзённа сутыкаюцца. Пасьля дыскусіі для абмеркаваньня былі пакінуты тры найбольш актуальныя, на думку аўдыторыі, праблемы. У выніку — сфармаваліся тры групы: "дзяржаўнікі", якіх хвалюе лёс Беларусі; заклапочаныя спазьненьнем экспертаў, а таксама "барацьбіты" з недабраякаснай каўбасой. Кожная група павінна была абгрунтаваць выбар праблемы і даказаць яе прыярытэтнасьць. Найлепш гэта ўдалося групе, якая вырашыла змагацца з недабраякаснай каўбасой. Як жартам было заўважана, праблема каўбасы — праблема № 1 у нашым грамадзтве. Гэта група паказала, што, каб пераадолець пасіўнасьць грамадзянаў, трэба пачынаць з вырашэньня праблемаў, якія блізкія кожнаму. Калі чалавек навучыцца адстойваць свае правы на бытавым узроўні, то ён не дазволіць парушаць іх і ў іншых сферах жыцьця.

Праблемы блакаваньня, супрацоўніцтва і канцэнтрацыі сумесных намаганьняў грамадзкіх арганізацыяў — вось тэма наступнага блоку. Як паказаў семінар, гэтая праблема вельмі актуальная на сёньняшні дзень. Дзелавая гульня добра адлюстравала сітуацыю ў нашым грамадзтве: кожная група, даказваючы важнасьць сваёй праблемы, ня чула аргументаў іншай групы. Аднак пасьля кароткіх спрэчак дзьве групы з трох усё ж аб'ядналіся. З трэцяй групай гэтага не адбылося па даволі банальнай прычыне — ёй не змаглі даходліва данесьці мэты аб'яднаньня. Гэты гульнявы эпізод яскрава паказаў, што, калі актывісты трэцяга сектару навучацца слухаць адзін аднаго, даходліва выкладаць свае думкі і намеры, гэта стане першым крокам да сумеснага вырашэньня агульных праблемаў.

На семінары яго ўдзельнікі падчас дзелавой гульні даведаліся, як правільна праводзіць кампанію ўплыву для абароны правоў і інтарэсаў сябраў грамадзкіх арганізацыяў.

Дзелавыя гульні высьвецілі некалькі праблемаў трэцяга сектару. Сярод найбольш важных — нізкая актыўнасьць шэраговых сябраў, іх адасобленасьць, няўменьне ацэньваць і выкарыстоўваць патэнцыял сябраў арганізацыі.

Удзел прадстаўнікоў украінскіх і польскіх арганізацыяў дапамог берасьцейскім актывістам наладзіць новыя кантакты, запланаваць сумесныя праекты. Вопыт семінару быў карысны для студэнтаў БрДУ, якія праходзілі летнюю педагагічную практыку ў летніку "Зорка" Жабінкоўскага раёну. (Акурат у гэтым летніку дзяцей кармілі недабраякаснай каўбасой). Разам з супрацоўнікамі летніка яны дабіліся ад прафсаюзнага (!?) кіраўніцтва дастойнай аплаты іх працы, а таксама вырашэньня некаторых іншых праблемаў, што мелі месца ў летніку.

**Натальля Малашчыцкая**
**Надзея Ярмішына**



арганізацыі, маюць нямала ідэяў, валодаюць разнастайнымі ведамі і навыкамі, могуць знаходзіць нетрадыцыйнае выйсьце з даволі складанай сітуацыі. Таму асабліва важна для лідараў арганізацыяў зразумець, што карысная думка можа нарадзіцца ў любога сябра ягонай арганізацыі, для гэтага трэба навучыцца слухаць усіх і спрыяць абмену думкамі, няхай нават і самымі палярнымі, а шэрагоўцам, у сваю чаргу, ня трэба камплексаваць.

Моладзь, што брала ўдзел у дзелавой гульні, на ўласным вопыце пераканалася, што магчымасьці арганізацыі могуць быць проста невычарпальнымі якраз з-за наяўнасьці такіх вось "сьціплых" кадраў.

**Ірына Лаўроўская**





# Беларускія татары: 600 гадоў на зямлі беларускай

Сёлета наша грамадзкасьць адзначае надзвычай важную падзею — 600-годдзе татарскага асадніцтва ў Беларусі. Так ужо склалася, асабліва за савецкім часам з яго шырмавай дэкларацыйнасьцю пра раўнапраўе і арганічнае разьвіцьцё ўсіх народаў "адзінай і непадзельнай", што стала зусім неабавязковым праяўляць зацікаўленасьць і павагу як да сваёй гісторыі, так і да гісторыі тых народаў, якія жывуць побач з намі. Складваліся пэўныя стэрэатыпы: татарын — значыць рабаўнік, захопнік, не наш чалавек. Маючы на ўвазе татарскі прыгнёт, якога ў Беларусі, дарэчы, ніколі не было, складальнікі розных даведнікаў, падручнікаў з асалодай сьпяшаліся нагадаць пра адмоўнае стаўленьне нашага народу да гэтых прышэльцаў. Шчыра кажучы, на гэтым разважаньні такога роду заканчваліся. Пра далейшую гісторыю — гісторыю ўнікальнага шматгадовага суіснаваньня беларусаў і татараў нічога не гаварылася...

Татарамі спачатку называлася адно з самых ваяўнічых мангольскіх плямёнаў. З XIII ст. назва татары становіцца этнонімам плямёнаў, аб'ядназаных у дзяржаве Чынгізхана. Пазьней назва татары распаўсюджваецца на ўсё качавое насельніцтва Залатой Арды (цюркі, кіпчакі, полаўцы, печанегі, берандзеі, хазары).

У XIX ст. у расейскай і польскай гістарыяграфіі ўзьнік тэрмін літоўскія ці беларускія татары. Ён ужываўся ў дачыненьні тых татарскіх народаў, якія ў сувязі з працэсамі распаду мангола-татарскай дзяржавы Залатой Арды тым ці іншым шляхам апынуліся на землях Вялікага княства Літоўскага, акліматызаваліся тут, перанялі мясцовыя культурныя здабыткі і ўключыліся ў працэс станаўленьня этнічнай прасторы гэтых зямель. Толькі ў XIX ст., пасьля захопу гэтых земляў Расейскай імперыяй, тут сталі пасяляцца прадстаўнікі цюркскіх народаў Паволжа, Каўказу і Крыму, большасьць з каторых таксама называлася татарамі, але ў матэрыяльна-духоўным і гістарычным разьвіцьці значна адрозьніваліся ад беларускіх татараў.

Паводле меркаваньняў большасьці дасьледчыкаў, ужо ў XV ст. татары ў Беларусі амаль поўнасьцю пераймаюць беларускую мову і забываюць татарскую. Нават не гледзячы на моцны паланізатарскі ціск на землях ВКЛ у XVII ст., большасьць татарскага насельніцтва тут ніколі папольску так і не разумела, апрача, вядома, татарскай шляхты. А.Грыцкевіч прыводзіць напісаны ў 1558 годзе ліст невядомага аўтара да турэцкага султана, у якім гаворыцца, што "яны (татары) ня могуць гаварыць па-турэцку і арабску, а размаўляюць на дзьвюх мясцовых мовах — польскай і беларускай". Нават рэлігійная літаратура татараў па-польску (а татары ў большасьці сваёй да XVII ст. вызнавалі іслам) зьяўляецца толькі ў XIX стагоддзі. Польская мова ніколі не была моваю мусульманскай царквы ў Беларусі. Я.Станкевіч у сваім дасьледаваньні "Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом" піша: "З часам беларускія мусульмане замест ранейшых кнігаў арабскіх, і, хіба, часткова, татарскіх дзеля рэлігійных патрэбаў пачалі перакладаць і пісаць свае кнігі па-беларуску". Беларуская мова, як зазначае аўтар, у XVI і XVII стст. была царкоўнай (літургічнай) моваю ісламу ў Беларусі. Так узьніклі беларускія кнігі арабскім пісьмом: Алькітабы (Кітаб па-арабску значыць "кніга"), зборнікі малітваў, рукапісы-пераклады Карану. Польскі дасьледчык А.Мухлінскі ў 1858 годзе пісаў, што ў мячэцях Беларусі было шмат беларускіх мусульманскіх рукапісаў. А ў 1836 годзе быў нават выдадзены турэцка-беларускі слоўнік. Беларускі ўплыў выявіўся на зьнешняй абраднасьці татараў (некаторыя з іх нават цалкам запазычаныя). Найперш на тых, што зьвязаны з рэлігійным рытуалам і з афармленьнем такіх важных у асабістым жыцьці чалавека падзеяў, як нараджэньне дзіцяці, хрэсьбіны, вясельле і інш. Татары засвоілі беларускія прыказкі, прымаўкі, загадкі, песьні, прыпеўкі, а таксама іншыя жанры вусна-паэтычнай творчасьці беларусаў. Цікава, што беларускія татары, якія заўсёды вылучаліся сваёй адметнасьцю, ужо ў XIX ст., паводле словаў П.Шпілеўскага, пачалі пераймаць беларускае адзеньне. Ён піша: "Мужчыны прынялі касьцюм беларускіх мяшчанаў г.зн. ходзяць у апойкавых, мазаных дзёгцем ботах, у шэрых доўгіх сурдутах і шапках з казыркамі".

Паводле словаў крымска-татарскага асьветніка Ісмаіла Гаспрынскага, які ў 1880 годзе наведаў губерні Літвы і Беларусі, "абсалютная большасьць з іх (беларускіх татараў — *З.П.*) адукаваныя і вельмі многія з іх служаць на ваеннай і цывільнай службе. Літоўскія татары — найлепшыя татары Расеі па культуры і і адукаванасьці". А.Мухлінскі, які дасьледаваў паходжаньне літоўскіх татараў, так характарызаваў іх: "Яны ў большасьці выпадкаў высокага росту, стройныя, чарнавалосыя, смуглаватыя, з правільнымі рысамі твару; высакародныя ў абыходжаньні і разважлівыя ў размовах, гасьцінныя, рахманыя, стрыманыя... У маральных адносінах яны сумленныя, добрыя, ласкавыя, жывуць у згодзе з іншымі жыхарамі, але не зьліваюцца з імі. Амаль ніколі не былі выкрытыя ў крымінальных злачынствах. У хатнім побыце яны міралюбівыя, рэдка паміж сабой сварацца і варагуюць". У беларускіх татараў няма мнагажонства, няма ізаляцыі жанчынаў ад мужчынаў.

Было б несправядліва сьцьвярджаць, што беларускія татары не ўнесьлі анічога ў агульнакультурную скарбніцу нашага народу. Зьяўляючыся па мове і побыту блізкімі да беларусаў, яны, аднак, захавалі сваю нацыянальную адметнасьць. У тыя часы, як Еўропа ўзброівалася супраць мусульманаў, на нашых землях беларускія татары будавалі свае мячэці, стваралі помнікі мастацтва і пісьменства. Беларусы пераянялі ад татараў бурку, жупан, канфедэратку, халат, спадніцу, боты і нават так званыя слуцкія паясы. Татары прынесьлі ў Беларусь такія віды гародніны, як часнык, пастарнак, каляндра, шпінат, фасоля, капуста кальрабі і іншыя.

Беларускія татары настолькі зжыліся з мясцовым насельніцтвам, што часта ў час войнаў выступалі супраць адзінаверцаў — крымскіх татараў і нагайцаў. Так, водгукам гэтых падзеяў служыць адказ беларускіх татараў таго часу сваім аднаверцам, якія прыходзілі з вайною на землі ВКЛ, рабуючы і забіраючы ў палон насельніцтва: "...Ні бог, ні прарок не дазваляюць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за драпежнікаў і шаблямі нашымі забіваем рабаўнікоў, а не братоў нашых... Мы ля Вакі

[illegible]

*У карты, у шахы, у косткі грацъ грэх. Кафірскі обычай у ношэню любіць грэх. Звоноў слухаць, а еслі чуў, знай, штогрэх пець. На дудах і на кожнай музыцы іграць грэх. Гэты свет міловаць і уганяца за нім грэх. Жону сваю указываць і самому на чужыя глядзець грэх. У дом чужы без позволеня ўвайці, і таемне у дом гледзець грэх. Цело сваё, члункаў, што не прыстоіць, нікому не ўказуй і сам ні в кого не гледзі, бо грэх.*

*Мухемед Шагідзевіч*

*Мусульманскі хікаят-павучэньне. Арабская вязь і беларуская мова. Транскрыпцыя Л.Чаранкова*

(Вільні) будзем кроў праліваць за літоўцаў, якія лічаць нас братамі сваімі." Гэты адказ прыводзіць А.Мухлінскі, спасылаючыся на акты Літоўскай метрыкі. І ў XVIII ст., як сьведчыць І.Канапацкі, падчас падзелаў Рэчы Паспалітай "народ татарскі праз трох пасланых ад яго дэпутатаў даводзіў на правінцыяльнай сесіі ВКЛ, што як у Варшаве, так і ў Правінцыях адважныя яго салдаты, сабраўшыся ад сваіх імамаў (праведнікаў ісламскага права — *заўв. З.П.*) прысягалі на Кур'ане бараніць караля, Бацькаўшчыну і Канстытуцыю".

Упершыню на беларускія землі татары прыйшлі ў 1238 годзе. Тады войскі Залатой Арды разбурылі Слонім і Навагрудак. У 1258 годзе, паводле зьвестках летапісца, "взяша татарове всю землю Литовскую". Паміж 1280 і 1288 гг. атрады цемніка Нагая спалілі Берасьце, Навагрудак, Гародню. Татары яшчэ ня раз прыходзілі на землі Беларусі з агнём і мячом. Але сітуацыя карэнным чынам зьмяняецца з распадам напрыканцы XIV ст. некалі магутнай татарскай дзяржавы Залатой Арды. Цяпер былыя захопнікі-рабаўнікі, якія ня вытрымалі жорсткай міжусобнай барацьбы, шукалі паратунку ў суседніх дзяржавах, перакачоўвалі з жонкамі, дзецьмі і скарбам.

Паводле меркаваньняў некаторых гісторыкаў, першая хваля татарскага асадніцтва на землях Беларусі прыпадае на часы княжаньня Гедыміна, які запрасіў татараў прымаць удзел у бітвах супраць тэўтонцаў. Ёсьць зьвесткі, што нібыта францысканцы ў 1324 г. бачылі на нашых землях "нейкіх людзей, якія маліліся па-азіяцку". На часы ж Вітаўта прыходзяцца першыя дакладныя зьвесткі пра татарскіх перасяленцаў у Беларусі. Гэта былі:

*1) аселыя наёмныя і саюзныя войскі;*

*2) прыгнаныя сілай у сувязі з ваеннымі паходамі;*

*3) дабраахвотныя перасяленцы.*

У 1397 г. татары (у асноўным дабраахвотныя перасяленцы з Залатой Арды) аселі на р.Віліі, а таксама ў былых паветах Трокскім, Ашмянскім, Лідзкім, Навагрудзкім, Берасьцейскім, Менскім. У тым самым годзе сучасная Лідчына была аддадзена саюзьніку Вітаўта хану Тахтамышу, які быў пазбаўлены залатаардынскага трону Цімурам-Заваёўнікам. Тахтамыш пражыў у асобным доме, што стаяў у ваколіцах лідзкага замку, два з паловай гады. У сярэдзіне XV ст. лідзкім старастам быў перабежчык з Залатой Арды Даўлет-Хаджы-Гірэй, будучы хан перакопскіх татараў. Вітаўт выдзяляў татарам зямлю, якая пераходзіла ў спадчыну да нашчадкаў, дазваляў жаніцца з літвінкамі, а дзеці маглі прымаць веру бацькоў. Пры Вітаўце ў войску ВКЛ было некалькі татарскіх атрадаў, якія фігуравалі ў дакументах, як "людзі рыцарскія". Гэтыя і іншыя татарскія атрады праявілі сябе пад Грунвальдам у 1410 годзе. Без сумніву можна сьцьвярджаць, што часы праўленьня Вітаўта былі самыя спрыяльныя ў гісторыі татарскага асадніцтва ў Беларусі. Кажуць, што ажно да XVII ст. у мячэцях Беларусі татары ў сваіх малітвах згадвалі гэтага князя. Напэўна, з тых часоў дайшла да нас татарская песьня наступнага зьместу:

*Мы з Паволжа і Крыму з імамам прыйшлі.*
*На гасьцінныя землі Літвы й Беларусі.*
*Пад Грунвальдам суровы экзамен здалі*
*І ўласную службу нясьлі без прымусу.*

На другую палову XV — пачатак XVI стст. прыпадае апошняя хваля перасяленцаў татарскага паходжаньня. Але цяпер яна была ўжо ў асноўным з сучаснай тэрыторыі Крыму, дзе ў 1443 годзе ўтварылася Крымскае ханства з выразнай прамаскоўскай арыентацыяй. Стаўленьнікі ВКЛ цэрпяць там паражэньне і шукаюць прытулак у Вялікім княстве Літоўскім (сын Хаджы-Гірэя Нур Даўлет з братам Айдарам). Пачынаюцца амаль бесьперапынныя паходы крымчакоў на тэрыторыю Беларусі, якія прыносяць шмат палонных з абодвух бакоў. Набегі крымскіх татараў на тэрыторыю Берасьцейшчыны былі: у 1500 г. — татары спалілі Берасьце і Камянец, у 1501 г. — прайшліся па Палесьсі, у 1502 г. разрабавалі Тураўшчыну і Піншчыну, 1521 г. — татары спалілі Пінск, Мазыр, Тураў, а ў 1526 г. panішчылі ваколіцы гэтых гарадоў.

У 1506 годзе пад Клецкам, дзякуючы перамозе князя Глінскага (ён вёў радавод ад сына Мамая Мансур-Кіята, які прыйшоў на Беларусь у 1380 годзе і заснаваў горад Глінск), у палоне апынулася апошняя буйная група татараў, частка якіх была паселена пад Клецкам, другая — у Менску, а іншыя — у даўніх татарскіх сёлах.

Татары на Беларусь прыбывалі і сяліліся часьцей за ўсё згуртаванымі родапляменнымі групамі, улусамі ці фаміліямі, паміж якімі ў XV-XVI стст. былі значныя адрозьненьні. Такі характар расьсяленьня татараў уплываў на іх ваенна-адміністрацыйны лад. У XVI ст. усе ваенна-служылыя татары падзяляліся на харугвы (тыя ж улусы), а ў ваенных



*Помнік на мусульманскіх могілках пад Берасьцем у в.Студзянка (Польшча)*

адносінах — на сьцягі, якія ўяўлялі сабой атрады, што тэрытарыяльна прымыкалі да атрадаў шляхецкага апалчэньня таго ваяводзтва, дзе жылі татары гэтага сьцягу. На падставе люстрацыі татараў ВКЛ 1631 году можна акрэсьліць 6 фаміліяў. Уланская — паходзіць ад залатаардынскага племені ўйшунаў, якое раней за іншых перасялілася на землі Беларусі. Па традыцыі гэтая фамілія мела больш прывілеяванае становішча ў саслоўнай ерархіі сярод беларускіх татараў. Значна пазьней у Беларусі зьявіліся іншыя залатаардынскія фаміліі — Юшынская, Найманская, Ялаірская, Кандрацкая, а ў канцы XV ст. апошняя па часе перасяленьня ў Беларусь — Барынская. Гэтая фамілія вядзе свой род ад вышэйшых арыстакратычных колаў Крымскага ханства. Ад Уланскай фаміліі пайшлі такія татарскія прозьвішчы, як Уланы, Улановічы, ад Кандрацкай — Кандратовічы, ад Барынскай — Бараноўскія, Туган-Бараноўскія, ад Юшынскай — Юшчынскія, Лісоўскія, ад Ялаірскай — Юзэфоўскія, Юзэфовічы, Янушэўскія, ад Найманскай — Наймановічы, Аманы. Геральдычныя знакі XVI-XIX стст. сьведчаць пра тое, што ў Беларусі было больш за 50 вядомых прозьвішчаў, якія насілі беларускія татары. Акрамя ўжо пералічаных, можна назваць яшчэ і такія: Азулевіч, Александровіч, Астрынскі, Байрашэўскі, Байрулевіч, Багдановіч, Бяляк, Варановіч, Канапацкі, Лісоўскі, Улан, Раманоўскі, Сабалеўскі, Шабановіч, Шаблоўскі, Якубоўскі і інш.Татарскія карані мелі літаратуразнаўца Сьцяпан Александровіч, паэты Адам Гурыновіч, Максім Багдановіч, Адам Міцкевіч, славутыя генералы Якуб Ясінскі, Станіслаў Булак-Балаховіч. Татарскія карані маюць гісторык Ібрагім Канапацкі, пісьменьнікі Вячаслаў Адамчык, Міраслаў Шайбак і інш.

Найбольш шматлікай часткай татарскіх асаднікаў былі ваенна-служылыя ці зямяне. Яны дзяліліся на гаспадарскіх, панскіх і татараў-казакаў. Усе ваенна-служылыя татары не плацілі падаткаў, а ў час вайны яны атрымлівалі з каралеўскага скарбу асобную плату.

Сярод гаспадарскіх татараў, якія служылі вялікаму князю і каралю, выдзяляліся царэвічы і князі (бекі). Яны паходзілі пераважна з ханскіх радоў з Крыму і Арды і зьяўляліся буйнымі землеўладальнікамі ў Беларусі. Ніжэй за іх стаялі мурзы і ўланы — радавітыя феадалы і сярэднія землеўласьнікі. Дробную татарскую шляхту, якая сялілася ва ўладаньнях магнатаў, несла там ваенную службу і атрымлівала за гэта невялікія маёнткі, называлі панскімі татарамі. Асабліва шмат панскіх татараў было ва ўладаньнях Радзівілаў і Сапегаў. Гістарычныя крыніцы сьведчаць, што ў 1667 годзе ў Радзівілаў, Клецкіх ардынатаў і ўладальнікаў Давыд-Гарадка, мелася асобная харугва служылых татараў. Больш за ўсё іх жыло пад Клецкам, Давыд-Гарадком, Нясьвіжам, Слуцкам і Менскам.

Татары-казакі былі гаспадарскія і панскія. У ваенны час яны несьлі службу ў паходах пад камандаваньнем сваіх атаманаў, у мірны — развозілі пошту. Толькі невялікая частка з іх была шляхтай і мела маёнткі з уласнымі сялянамі. Большасьць вяла сваю гаспадарку самастойна. З XVI ст. частка татараў-казакаў зьбяднела і, акрамя сельскай гаспадаркі, пачала займацца вырабам скураў і рамізьніцтвам.

Была яшчэ адна група татарскіх асаднікаў, што жылі ў гарадах і мястэчках,— так званыя "простыя татары". На сваёй радзіме яны былі вольныя ці феадальна-залежныя, а ў Беларусь трапілі ў якасьці ваеннапалонных. Для іх сьпецыяльна адводзілася зямля пад сядзібы і агароды. Як і ўсе мяшчане, яны плацілі пагалоўны падатак і несьлі павіннасьці. Асноўнымі занятками "простых татараў" было рамізь-

*Працяг на стар.14*

# Беларускія татары: 600 гадоў на зямлі беларускай

*Працяг, пачатак на стар.12-13*

ніцтва, дубленьне скураў, агародніцтва, выраб саф'яну, жывёлагадоўля. Існаваньне кампактных паселішчаў гэтых татараў у гарадах і мястэчках знайшло сваё адлюстраваньне ў шматлікіх гарадзкіх тапонімах (Татарская слабада, Татарскі канец) і назвах вуліцаў (Татарская, Ардынка).

Да сярэдзіны XVII ст. у Беларусі існавала асобная татарская адміністрацыя: ваенная (харужыя) і цывільная (маршалкі). Пазьней ваенна-служылыя татары сталі ўваходзіць у склад павятовай шляхты. У XVII-XVIII стст. значная колькасьць татараў жыла ў магнацкіх юрысдыках у гарадах. Варта адзначыць, што ў Менску ў юрысдыках Радзівілаў і Астрожскіх была татарская грамада, на чале якой стаялі свае татарскія войты. Толькі пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія татары, што жылі ў гарадах і мястэчках і пры гэтым ня мелі дваранскіх правоў, пачалі пераводзіцца ў мяшчанскае саслоўе.

Нягледзячы на існаваньне згадак пра татарскія пасяленьні на тэрыторыі сучаснай Берасьцейшыны яшчэ ў часы князя Вітаўта, канкрэтных фактаў, якія б пацьвердзілі гэта, няма. Першыя дакладныя зьвесткі пра існаваньне татарскага асадніцтва на Берасьцейшчыне адносяцца да першай паловы XVII ст. Так, згодна з рэвізіяй татараў на земскім праве, у 1631 годзе ва ўсім Берасьцейскім ваяводзтве адзначаецца толькі 6 татарскіх дамоў. Увогуле татараў на той час у ВКЛ было, згодна з рэвізіяй маёнткаў татараў, каля 13000 чалавек (8000 аселых, 5000 неаселых), а з жонкамі і дзецьмі — каля 25000.

Згодна з апісаньнем староства Берасьцейскага 1566 году, якое было праведзена Дзмітрыем Сапегам, у сьпісе падаткаплацельшчыкаў-берасьцейцаў сустракаецца ня менш за 10 імёнаў і прозьвішчаў, якія могуць быць аднесеныя да татарскіх: Фёдар Шамудан, Раман Койдан, Багдан Курбечыч, Аляксандр Кучук, Міхно Чарнабаевіч, Перхор Багушыховіч, Іван Бунчыч, Балабаноўскі і інш. Аднак татарскіх тапонімаў ці культавых пабудоў, якія б сьведчылі пра кампактнае пражываньне татараў у Берасьці, ня выяўлена.

Можна сьцьвярджаць, што толькі за часамі караля Яна III Сабескага на Берасьцейшчыне зьяўляюцца буйныя асады татараў. Гэта зьвязана з наданьнем татарам — ветэранам польска-турэцкай вайны — зямлі ў Берасьцейскай і іншых эканоміях паводле каралеўскага прывілею ад 12 сакавіка 1679 году. Так, у Берасьцейскай эканоміі недалёка ад Берасьця, за Бугам у в.Малашэвічы, асеў ротмістр Данііл Шаблоўскі з кампаніяй, ротмістр Раманоўскі з "афіцэрамі" — у Студзянцы, а палкоўнік Самуіл Мурза Карыцкі разам з 30 сваімі воямі атрымаў у валоданьне зямельныя надзелы ў Берасьцейскай эканоміі і (Лебедзеў і Малашэвічы) і Кобрыньскай (Батчы, Літвінкі, Пагатычы, Кляшчы, Пескі, Жабін, Руховічы). Цікава адзначыць, што татары, якія атрымалі там зямлю, удзельнічалі ў вядомым татарскім бунце 1672 г., які атрымаў назву паўстаньне Ліпкаў (частка татараў пад кіраўніцтвам ротмістра Аляксандра Мурзы Крычынскага перайшла на бок туркаў; потым многія з іх вярнуліся на службу да караля, калі атрымалі гарантыю сваіх свабод і вольнасьцяў).




За свае вайсковыя заслугі татары і пазьней атрымлівалі каралеўскія прывілеі на валоданьне вёскамі ў Берасьцейскай эканоміі. Палкоўнік Аляксандр Улан пасьля 1717 году атрымаў ва ўладаньне вялікую вёску Кашалы, ротмістр Монтуш — у 1727 годзе атрымаў в.Ортэль, а Мустафа Асановіч у тым жа годзе атрымаў в.Осава. У 1759 годзе паручнік Самуіл Чымбаевіч атрымаў у Берасьцейскай эканоміі вёскі Палоскі і Дубровіцы. Іншыя, найбольш вядомыя імёны асаднікаў на Берасьцейшчыне: Азулевічы — зьявіліся ў Берасьцейскай эканоміі з пачатку XVIII ст., Лісоўскія — з пач. XVIII ст., Бараноўскія — з XVIII ст., Байрулевічы — з 1-й пал. XIX ст.

Ёсьць зьвесткі пра татараў у Камянцы: у перыяд з 1699 г. па 1745 г. тут было ахрышчана 30 мусульманаў.

У XIX ст. сучасьнікі адзначалі пэўную гаспадарчую сьпецыялізацыю татараў-мяшчан, што жылі на Берасьцейшчыне. Так, у Пінску яны займаліся пераважна вырабам скураў, а ў Давыд-Гарадку і Кобрыні татары славіліся як гандляры (гарадоцкія татары мелі гандлёвыя сувязі нават з Турэччынай, Бесарабіяй і Крымам, а кобрыньскія — з Падляшшам, Валыньню, Вільняй). Татары, што жылі пад Баранавічамі, займаліся жывёлагадоўляй і каняводствам, а для лунінецкіх было характэрна т.зв. адыходніцтва (татары разыходзіліся па іншых мясьцінах, дзе наймаліся на розную гаспадарчую працу).

Паводле ацэнкі польскага дасьледчыка Р.Харанкевіча, на Палесьсі ў 30-ыя гады XX ст. жыло каля 3000 татараў, большасьць з якіх расьселена ў Пінскім і Столінскім паветах. Пра мясцовую татарскую шляхту ён піша так: "Шляхта з-пад Давыд-Гарадка захавала далёка зайшоўшы кансерватызм і пачуцьцё асабістай годнасьці". Мясцовая татарская шляхта ў 30-ыя гады XX ст. вызнавала пераважна праваслаўе, гаварыла па-беларуску і моцна была зьвязана з польскай грамадзкасьцю.

Што ж да культавых пабудоў татараў на Берасьцейшчыне — дакладна вядома пра існаваньне ўсяго некалькіх мячэцяў. Многія з іх былі вельмі падобныя на мясцовыя хрысьціянскія сьвятыні. Вядомы польскі этнограф Раман Харанкевіч у 30-х гадах XX ст. сьцьвярджаў, што ў засьценках ваколіцаў Давыд-Гарадка бачыў драўляныя хрысьціянскія пабудовы, якія вонкава выглядалі як уніяцкія ці праваслаўныя храмы, а знутры мелі падабенства з мусульманскімі сьвятынямі. Паданьне гаворыць, што была мячэць у Лахве, у татарскай аседласьці на землях Радзівілаў, але з часам яна была пераабсталявана ў царкву. Ля Берасьця існавала мячэць у в.Студзянка (сёньня — Польшча). Яна была ўзьведзена ў 1679 г. і праіснавала да 1915 году (яе спалілі пры адступленьні расейскія войскі). У г.Ляхавічы існавала саборная мячэць з 1815 г. па 1917 г. У татараў Беларусі і Літвы, як і ў краінах Усходу, мячэці буйных прыходаў, да якіх належала і мячэць у Ляхавічах, называліся джама, джэма. У такіх мячэцях штодзённа ажыцьцяўлялася богаслужэньне



*Мячэць у в.Студзянка*

за халіфа — хутбэ. У 1924-28 гг. ляхавіцкая мячэць была адноўлена. Цікава, што сродкі для яе ўзнаўленьня ахвяравалі татары, якія эміґравалі ў Амерыку, а таксама віленскі муфціят і егіпецкі кароль.

Сёньня амаль усе культавыя збудаваньні беларускіх татараў у Беларусі зьнішчаныя. Дзейнічала толькі адна мусульманская мячэць у м.Іўе, што на Гарадзеншчыне. Аднак у апошнія гады дзейнасьць беларускіх татараў значна актывізавалася. Сёлета ў Наваградку падчас сьвяткаваньня 600-годдзя татарскага асадніцтва ў Беларусі была асьвечана новая мячэць.У Берасьцейскай вобласьці дзейнасьць беларускіх татараў найбольш актыўна праяўляецца ў Ляхавіцкім раёне. У 90-ыя гады татары стварылі тут сваё рэлігійна-культурнае аб'яднаньне, яго ўзначальвае Алі-Рашыд Байрашэўскі. Для мясцовых татараў была нават арганізавана школа арабскай мовы. Заняткі ў ёй раз на тыдзень праводзіў студэнт менскай політэхнічнай акадэміі.

У 1996 годзе ў Беларусі пражывалі 12,5 тысячаў татараў, а на Берасьцейшчыне — усяго каля 1000. Унікальны пласт нашай культуры, зьвязаны са спадчынай беларускіх татараў, на жаль, паступова зьнікае. Але і сёньня на Берасьцейшчыне можна знайсьці шэраг тапонімаў, якія могуць сьведчыць пра татарскую прысутнасьць: у Драгічынскім раёне — вёскі Татарнавічы, Татар'я, Агдэмер, у Кобрыньскім раёне — Асмолавічы, у Камянецкім — Полаўцы, Кунахавічы, Лісоўчыцы, у Баранавіцкім — Арабаўшчына, урочышча Туганавічы; у Лунінецкім раёне — хутары Татарка, Майдан, а ў Кажан-Гарадку ёсьць вул.Майдан (у перакладзе з цюркскага — плошча, базар). Шмат хто з беларусаў носіць прозьвішчы, якія утвораныя ад татарскіх словаў: Ажгірэвіч, Бабай, Бабаеўскі, Базарэвіч, Батырханаў, Булах, Булахаў, Булгак, Булгакаў, Бут-Гусаім, Батырханаў, Біліба, Казаневіч, Казанецкі, Камай, Камаёнак, Кашкур, Кашкурэвіч, Кунда, Кучук, Сагановіч, Солтан, Чыгрын, Чыгір, Шайбак і інш.

**Зьміцер Паталятаў**

# 198 методов ненасильственных действий

*"Ненасилие — это оружие сильных"*
Махатма Ганди

Продолжаем знакомить читателей "Шляха" с опытом мировой демократии, который был обобщён историком и политологом Джином Шарпом в его трёхтомнике "Политика ненасильственных действий". Эта книга вышла в 1973 году в США и является самым глубоким и всеобъемлющим исследованием природы ненасильственной борьбы и источников её успеха, соотношения понятий "власть" и "ненасильственная борьба", разнообразных методов, применявшихся участниками ненасильственных действий на протяжении истории человеческой цивилизации.

Материал печатается по книге "Антология ненасилия" (Москва-Бостон, 2-е издание, 1992) подготовленной и изданной неправительственной общественной просветительской организацией "Советско-Американская Гуманитарная Инициатива/Golubka".

## МЕТОДЫ ОТКАЗА ОТ СОЦИАЛЬНОГО СОТРУДНИЧЕСТВА

*Остракизм отдельных людей*

55. Социальный бойкот
56. Выборочный социальный бойкот
57. Отказ от исполнения супружеских обязанностей ("по Лисистрату")
58. Отказ от общения
59. Прекращение религиозной службы

*Отказ от участия в общественных событиях, обычаях и работе*

60. Прекращение социальной и спортивной деятельности
61. Бойкот общественных событий
62. Студенческие забастовки
63. Общественное неповиновение
64. Приостановление членства в общественных организациях

*Устранение из социальной системы*

65. Отказ выходить из дома
66. Полный личный отказ от сотрудничества
67. "Бегство" рабочих
68. Укрывание в убежище
69. Коллективный уход с места жительства
70. Эмиграция в знак протеста ("хиджрат")

## МЕТОДЫ ОТКАЗА ОТ ЭКОНОМИЧЕСКОГО СОТРУДНИСТВА: ЭКОНОМИЧЕСКИЕ БОЙКОТЫ

*Акции потребителей*

71. Бойкот потребителей
72. Неиспользование бойкотируемых товаров
73. Политика аскетизма
74. Отказ от выплаты арендной платы
75. Отказ арендовать
76. Общенациональный потребительский бойкот
77. Международный потребительский бойкот

*Акции рабочих и производителей*

78. Бойкот рабочих
79. Бойкот производителей

*Акции посредников*

80. Бойкот поставщиками и посредниками

*Акции владельцев и управляющих*

81. Бойкот торговцами
82. Отказ сдавать в аренду или продавать собственность
83. Локаут (остановка производства владельцем)
84. Отказ в промышленной помощи
85. Всеобщая забастовка торговцев

*Акции держателей финансовых ресурсов*

86. Снятие банковских вкладов
87. Отказ платить гонорары, выплаты, суммы обложения
88. Отказ выплачивать долги или проценты
89. Ужесточение фондов и кредитов
90. Отказ от уплаты налогов
91. Отказ от получения правительственной зарплаты

*Действия правительств*

92. Внутренне эмбарго
93. "Чёрные списки" торговцев
94. Международное эмбарго поставщиков
95. Международное эмбарго покупателей
96. Международное торговое эмбарго

## МЕТОДЫ ОТКАЗА ОТ ЭКОНОМИЧЕСКОГО СОТРУДНИЧЕСТВА: ЗАБАСТОВКА

*Символические забастовки*

97. Забастовки протеста
98. Быстрый уход ("забастовка-молния")

*Сельскохозяйственные забастовки*

99. Крестьянские забастовки
100. Забастовки сельскохозяйственных рабочих

*Забастовки особых групп*

101. Отказ от принудительного труда
102. Забастовки заключённых
103. Забастовки ремесленников
104. Профессиональные забастовки

*Обычные промышленные забастовки*

105. Забастовка истеблишмента
106. Промышленные забастовки
107. Забастовка солидарности

*Ограниченные забастовки*

108. Частичная забастовка
109. "Бамперная" (выборочная, поочередная) забастовка
110. Снижение темпов работы
111. Работа "строго по инструкции"
112. Невыход "по болезни"
113. Забастовка через увольнение
114. Ограниченная забастовка
115. Избирательная забастовка

*Многоотраслевые забастовки*

116. Распространяющаяся забастовка
117. Всеобщая забастовка

*Сочетание забастовок и экономического закрытия предприятий*

118. Прекращение работы и торговли ("хартал")
119. Прекращение всей экономической деятельности

*(Працяг. Пачатак у № 1 (18), 1997)*

## Конкурс „Заела...“

*Запрашаем чытачоў “Шляху” прыняць удзел у конкурсе на самы цікавы трох-пяцірадковы твор, у якім ўсе словы мусяць пачынацца з адной і той жа літары. Для разьвіцьця тэмы мы будзем даваць нейкі пачатак.*

*Сёньня мы пачнем з літары “А”. Для вашай фантазіі прапануецца такая фраза: “Аднойчы Аляксандр азьвярэў...” Працягвайце!*

*Самыя цікавыя варыянты будуць надрукаваныя ў газеце. Чакаем вашых адказаў да 15верасьня.*



**Кадры**

*Ой, Мілка, што я табе скажу...*

## З гісторыяй на „ты“

*(З адказаў берасьцейскіх студэнтаў і абітурыентаў)*

◆ Прагрэсіўныя — гэта тыя рэвалюцыянеры, якія хочуць палепшыць жыцьцё ня толькі сабе, але і іншым...

◆ Было тры падзелы Рэчы Паспалітай — і Беларусь аддзялілася ад Расеі...

◆ Кастусь Каліноўскі вядомы як кіраўнік паўстаньня 1905 году...

◆ 17 верасьня 1939 году Беларусь узьядналася з усходняй часткай Польшчы...

◆ Ёсьць меркаваньні, што паэму “Тарас на Парнасе” напісаў Кірыла Тураўскі...

◆ На зьмену фальклору старажытнаму прыйшоў фальклор новы. Напрыклад: “Раз, два — узялі!”

◆ У XVIII-XIX ст. да ўлады прыйшлі Саветы...

◆ Зося працавала аднойчы да ночы і ўсім сэрцам была за савецкую ўладу...

◆ — Калі ня цяжка, то назавіце даты жыцьця Маркса і Энгельса.

— А калі цяжка?

◆ — Назавіце, калі ласка, словы, якія ажылі ў апошні час у беларускай мове.

— Дойлід, спадар, жабрак...

*Сабрала і падрыхтавала*
**Сьвятлана Воронік**

## Анекдоты

***

Амерыканскаму прэзідэнту прысьнілася, што да яго прыбеглі некалькі перапалоханых чарцянятаў і нечага горача патрабуюць:

— Чаго вы ад мяне хочаце? — перапужана пытаецца ён. Я ж усё для свайго народу па-людзку рабіў...

— Вы ведаеце, памёр Лукашэнка і трапіў у пекла.

— Ну і што?

— Дык мы першыя бежанцы...

***

На мітынгу, арганізаваным з нагоды прыезду прэзідэнта, размаўляюць паміж сабой два супрацоўнікі КДБ:

— Не падабаецца мне гэты тып, што недалёка ад прэзідэнта стаіць. Трэба яго арыштаваць — пэўна, мясцовы апазіцыянер, народ супраць улады настройвае.

— Ты што! Ён жа глуханямы — знакамі гаварыў толькі што з суседам.

— Ага, а чаго ж ён тады пляваў, калі прэзідэнт пра стабілізацыю пачаў расказваць?..

***

3 ліпеня падчас лукашэнкаўскіх урачыстасьцяў з нагоды Дня рэспублікі журналіст з беларускага тэлебачаньня бярэ інтэрв'ю на вуліцах горада:

— Что бы Вы хотели сказать для БТ в этот праздничный день?

— Да пайшоў бы ты!..

— И так во всём городе! Так с шутками-прибаутками, смехом и весельем встречает белорусский народ новый государственный праздник.

***

Ля газетнага кіёску:

— У вас “Беларуская думка” ёсьць?

— Не, не было.

— А “Свободные новости” яшчэ ёсьць?

— Не, зусім не засталося.

— Дык можа хоць “Свабода” у вас засталася?

— І яе ўжо няма. Вы “Московские новости” не жадаеце? Ці можа “Правду” — нам свежую з Масквы даслалі...

## Радкі са школьных сачыненьняў

“Мая радзіма — горад Брэст. У ім шмат лясоў, дзе можна ўбачыць розных жывёл...”

“...Кожны чалавек любіць сваю Радзіму, свой народ, незалежна ад колеру скуры сваіх суседзяў”.

“У яго сачыненні прымалі ўдзел паэты са сваімі творамі П.Броўка і Н.Гілевіч...”

“Я.Колас любіў вельмі сваю Радзіму, таму што ён нарадзіўся, калі польскія паны правілі на Беларусі”.

*(З вучнёўскай газеты СШ № 14 г.Берасьця “Тэзаўрас”, №1, 1997)*

**Шлях**
Незалежны беларускі часапіс Берасьцейшчыны

**Заснавальнікі:** Берасьцейская абласная рада БНФ “Адраджэньне”; Грамадзкае аб'яднаньне “Стары горад”; Берасьцейская абласная філія БРФПДР імя Л.Сапегі; Берасьцейская гарадзкая філія БСДП “Народная Грамада”; Берасьцейскае абласное аддзяленьне Саюза пісьменьнікаў Беларусі.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі № 788 ад 25 лістапада 1996 году.

**Выдавец:** Ігар Судак.

**Адрас рэдакцыі:**
*224000, г.Берасьце, вул.Інтэрнацыянальная, 17, п.17;*
*для карэспандэнцыі: 224000, г.Берасьце, а/с 40.*
*Тэлефон (0162) 26-65-69.*

**Нумар падрыхтавалі:** Ігар Бараноўскі (в.а. рэдактара), Леанід Вайткоўскі, Сьвятлана Воронік, Марыя Новік, Зьміцер Паталятаў, Вераніка Шульган-Цітова.

**Падпісана ў друк:** 25 ліпеня 1997 году, а 23-й гадзіне.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасьць за дакладнасьць фактаў і іншых зьвестак.

**Паліграфічныя работы:** “Арбор”, г.Менск, вул.Мележа, 3.

Аб'ём - 2,0 ул. выд. аркуш.

Наклад 1010 асобнікаў. Замова №